ЛіМ
# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

17 снежня 2004 г. № 50/4285

## АНОНС!




"Чытанне зрабіла Дон Кіхота рыцарам, а вера ў прачытанае зрабіла яго вар'ятам"(Джордж Бернард Шоу). У падобных выпадках аўтар з'яўляецца выдатным стратэгам, а чытач... Правакаванне нашых здольнасцей даваць ацэнку таму, што адбываецца ў тэксце, выклік інтэрпрэтацыі, перажыванняў — гэта стратэгія тэксту. І яна бывае рознай...

СТАР. 6

*Трэці Рэспубліканскі фестываль "Тэатральныя скрыжаванні" ўвайшоў у гісторыю нашай нацыянальнай культуры не толькі як свята аматарскага сцэнічнага мастацтва. У атмасферы ўсялякага свята, добра пашукаўшы, знойдзеш зачэпку для разваг і крытычнага настрою.*



СТАР. 10

# Чары паэта...

**9 снежня ў Мінску адбылася святочная вечарына з нагоды 113 гадавіны нараджэння класіка нашай літаратуры Максіма Багдановіча. Правілася яна ў музеі слыннага сына беларускага народа, што знаходзіцца ў Траецкім прадмесці, непадалёк ад той мясціны дзе і нарадзіўся геній паэзіі.**

*На здымку: ускладанне кветак да помніка Максіму Багдановічу.*

*Фота К. ДРОБАВА*

# Чары паэта...

*"Ёсць чары у забытым старадаўным,
Прыемна нам сталеццяў пыл страхнуць..."*

*"Нашто ж на зямлі сваркі і звадкі,
Калі ўсе мы разам ляцім да зор..."*

*"Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прынясла..."*

Хто не помніць гэтыя і многія іншыя геніяльныя радкі класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча... Ён рана пайшоў ад нас, у няпоўных 26 гадоў. Сёлета з дня нараджэння споўнілася 113.

З нагоды гэтай даты 9 снежня ўшанавалі памяць Максіма з дапамогай ягонага ж музея, што знаходзіцца ў Траецкім прадмесці Мінска, непадалёк дзе ён нарадзіўся. З самай раніцы ў музей ішлі наведвальнікі, каб яшчэ раз дакрануцца да аўры беларускага генія, агледзець экспанаты, якія расказваюць пра жыццё і творчасць паэта. А ў 12 гадзін дня прыхільнікі таленту Максіма прыйшлі да яго помніка, які стаіць перад тэатрам оперы і балета. Там выступілі вядомы паэт Валянцін Тарас, былы артыст філармоніі Уладзімір Цімашэвіч, выкладчыца беларускай мовы і літаратуры Беларускага тэхнічнага універсітэта Валянціна Мароз, чыталі вершы Максіма Багдановіча вучні сярэдніх школ № 36 і 40 г. Мінска.

А 16-й гадзіне ў музеі паэта адбылася асноўная вечарына. Зала, якая была аздоблена пейзажнымі карцінамі мастака Алеся Шатэрніка, настройвала на паэтычны лад. На сцяне ў цэнтры — партрэт Максіма Багдановіча.

Вяла вечарыну супрацоўніца музея Святлана Кіслова, якая дала слова намесніку старшыні Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў Міхасю Скоблу. Ён адзначыў, што постаць Багдановіча ў беларускай літаратуры знакавая, з яго імем наша паэзія займела еўрапейскі ўзровень, упершыню пасля стагнацыі яна адчула лірычны ўзлёт. Міхась прачытаў некалькі сваіх паэтычных твораў, уласны пераклад верша ўкраінскай паэтэсы Ліны Кастэнкі. Эстафету ад яго пераняла Вольга Іпатава. Яна гаварыла аб сваіх пачуццях да творчасці генія. Паэт Валянцін Тарас, празаік Генрых Далідовіч, галоўны рэдактар часопіса "Роднае слова" Міхась Шавыркін прызнаваліся ў сваёй любові да творчасці Максіма Багдановіча. Пра тое ж казалі і чыталі вершы паэты Таццяна Дубоўская і Яўген Цераxаў.

Мастацкую частку прадоўжыў Сяргей Севасцьянчык вершам Максіма Багдановіча "Летапісец". З яго выступленнем ажылі вулкі Вільні, якія так любіў паэт. І ўжо сапраўднае вяртанне ў мінулае падарылі музычныя ансамблі "Чарадзейная домра" з другой музычнай школы Мінска і тытулаваны "Брэвіс". Калі першыя выконвалі выключна народную музыку, то другія прэзентавалі сур'ёзнае музычнае мастацтва сярэднявечча, папулярнае пры княскіх ды каралеўскіх дварах. Музыкі перакінулі своеасаблівы мосцік ад вершаваных цыклаў Багдановіча "Места", "Старая Беларусь", "Мадонны" да старадаўніх музычных твораў...


Фота К. Дробава

Колькі б ні набягала летаў ды зім генію беларускай паэзіі, ён заўсёды малады. Чарговая гадавіна паэта гэта яшчэ раз пацвердзіла.

**Яўген ХВАЛЕЙ**

# Нашы настаўнікі

**У бібліятэцы Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў адбылася прэзентацыя кнігі Аляксандра Бутакова "Мои учителя", якая выйшла ў выдавецтве "Чатыры чвэрці" ў гэтым годзе. Падрыхтавалі мерапрыемства студэнты і выкладчыкі кафедры тэатральнай творчасці БДУКМ і акцёры сталічных тэатраў.**

Аляксандр Бутакоў — кандыдат мастацтвазнаўства, прафесар кафедры тэатральнай творчасці БДУКМ, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Ён адзін са старэйшых айчынных тэатральных педагогаў, бліскучы настаўнік, тэатразнаўца, які за 50-гадовую выкладчыцкую працу падрыхтаваў некалькі пакаленняў таленавітых вучняў — майстроў беларускай сцэны. Сфера прафесійных інтарэсаў — стварэнне і пастаяннае ўдасканальванне методыкі выкладання акцёрскага майстэрства, падрыхтоўкі майстроў сцэнічнага мастацтва.

У кнізе-ўспаміне Аляксандра Іванавіча ідзе гаворка пра трох педагогаў — Еўсцігнея Міровіча, Канстанціна Саннікава і Дзмітрыя Арлова, якія стварылі сваю тэатральную школу ў Беларусі, на вопыце якой развіваецца і ўдасканальваецца сістэма выхавання артыстаў і рэжысёраў для прафесійных тэатраў.

На прэзентацыі прысутнічалі вучні А.Бутакова: Аляксандр Гарцуеў, рэжысёр і акцёр Беларускага Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы; акцёры іншых сталічных тэатраў: Алена Пастрэвіч, Таццяна Баўкалава, Віктар Гудзіновіч, Ігар Сігаў, Віктар Моўчан, Ігар Фільчанкоў і інш.

**В.К.**

# Пасяджэнне секцыі

У Саюзе пісьменнікаў адбылося пасяджэнне секцыі дзіцячай літаратуры, на якім былі абмеркаваны арганізацыйныя і творчыя пытанні. У тым ліку — творчасць Івана Мельнічука (г. Брэст) і Міхася Сазончыка (п. Гарадзея, Нясвіжскі раён), а таксама план работы на наступны год.

Выступілі пісьменнікі Міхась Пазнякоў, Васіль Жуковіч, Ніна Галіноўская, Мікола Чарняўскі, Уладзімір Мазго, Павел Місько, Яўген Каршукоў, Уладзімір Мацвеенка, Маргарыта Яфімава. Бюро секцыі рэкамендавала да прыёму ў члены Саюза беларускіх пісьменнікаў Івана Мельнічука, аўтара кніг для дзяцей "Кто разбудил солнце" (1982 г.), "Сами диво сотворим" (1990 г.), "Добрый лучик" (1997 г.) і інш., а таксама Міхася Сазончыка, аўтара кніг "Вераб'іная дача" (1998 г.), "Пад родным небам" (1998 г.), "Люблю" (2002 г.). Вёў пасяджэнне старшыня секцыі Міхась Пазнякоў.

**М. ПАЎЛАЎ**

# Музею Якуба Коласа — 45

***4 снежня 1959 года Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа ўпершыню адчыніў свае дзверы для наведвальнікаў. Першым дырэктарам стаў старэйшы сын народнага паэта Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч. Яго рупнасцю, стараннасцю і быў створаны музей. Больш як 20 гадоў ён яго ўзначальваў.***




Вечарыну з нагоды 45-годдзя музея адкрыла цяперашні дырэктар З. Камароўская. Яна нагадала асноўныя вехі, пройдзеныя музеем. За гэты час змяніліся 4 экспазіцыі, якія наведалі каля мільёна экскурсантаў. Вядучыя, супрацоўніцы музея, у вобразе трох міфічных багінь па чарзе давалі слова выступоўцам. А іх было шмат. Віншавалі старшыня Першамайскага райвыканкама г. Мінска, на тэрыторыі якога знаходзіцца музей, В. Скакун, дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН РБ А. Лукашанец, супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН РБ, доктар філалагічных навук М. Мушынскі, дэкан філфака БДУ І. Роўда, намеснік старшыні Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў Анатоль Кудравец, айцец Надсан, які прыехаў з Лондана, вучоны сакратар фундаментальнай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН РБ Н. Зайцава.

Павіншавалі дырэктары музеяў Мінска і Віцебска, намеснік старшыні Стаўбцоўскага райвыканкама М. Станкевіч і загадчык Стаўбцоўскага аддзела культуры А. Грэкаў, намеснік старшыні Пухавіцкага райвыканкама Л. Котава, старшыня Мінскага абласнога камітэта прафсаюзаў Г. Моўчан. Ад родзічаў Якуба Коласа выступіла ўнучка песняра Вера Міцкевіч, ад ветэранаў, былых супрацоўнікаў музея слова сказала Юлія Бураўкіна.

На вечарыне таксама прысутнічаў сын Якуба Коласа М. Міцкевіч, сваякі паэта.

**Алесь КРУШЫНА**

# Са "Святам!"



20-годдзе канцэртнай дзейнасці адзначыў Беларускі дзяржаўны ансамбль "Свята". Гэта самабытны творчы калектыў, у мастацтве якога арганічна спалучаюцца традыцыі фальклору з яго спрадвечнай жанравай сінкрэтычнасцю і подых сённяшняй канцэртнай эстрады з яе пікантнымі тэмбрамі ды імпульсіўным рытмам. Ансамбль "Свята", мастацкім кіраўніком якога доўгі час быў В.Купрыяненка і які сёння ўзначальвае А.Каштылапаў, справіў свой прыгожы юбілей 10 снежня ў канцэртнай зале "Мінск". Удзельнікамі вечарыны былі таксама сябры ансамбля — не менш папулярныя і вядомыя беларускія музыкі.

**С.Б.**

*Фота М. ЗАМУЛЕВІЧА*

# У свеце керамікі

У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь адбылося адкрыццё выстаўкі "Традыцыйная японская кераміка". Яна падрыхтавана Міністэрствам культуры Беларусі сумесна з Японскім фондам, Міністэрствам замежных спраў Японіі, Нацыянальным мастацкім музеем РБ і Пасольствам Японіі ў Рэспубліцы Беларусь.

На выстаўцы прадстаўлены 63 работы сучасных японскіх майстроў: фарфор, распісаная кераміка, прылады для чайнай цырымоніі.





Перад тым як завітаць у Беларусь, экспазіцыя на працягу года выстаўлялася ў Заходняй Еўропе. Але і пасля таго, як зацікаўленыя жыхары і госці сталіцы змогуць азнаёміцца з часцінкай японскай культуры, выстаўка не вернецца на радзіму, а накіруецца на поўнач, у Нарвегію.

Такая папулярнасць гэтай выстаўкі сярод заходніх краін абумоўлена цікавасцю да ў нечым таямнічых ды загадкавых культур і традыцый, светапогляду і нацыянальных рысаў краін Усходу і, у прыватнасці, Японіі.

**В.К.**

*Фота К. Дробава*

# З нашых казак і легенд

**У мастацкай галерэі "Універсітэт культуры" (Палац Рэспублікі) праходзіць Рэспубліканская мастацкая выстаўка "Свет казак, легенд і паданняў зямлі беларускай". У яе падрыхтоўцы бралі ўдзел Міністэрства культуры РБ, Спецыяльны фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, Беларускі дзяржаўны інстытут праблем культуры і Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры і мастацтваў.**

У выстаўцы ўдзельнічаюць стыпендыяты Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі трох узроставых катэгорый: першая — да 16 гадоў, другая — да 20 і трэцяя — да 25 гадоў. На ёй прадстаўлены не толькі работы па матывах беларускага фальклору, але і творчыя інтэрпрэтацыі маладых мастакоў. У экспазіцыю ўвайшлі творы жывапісу, графікі і скульптуры, а таксама батыкі, габелены, ткацтва і кераміка — усяго каля 120 работ.

Спецыяльны фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі аказвае ўсебаковую дапамогу і фінансуе рэспубліканскія праграмы ў галіне культуры і мастацтва, накіраваныя на стварэнне ўмоў для пошуку, станаўлення і творчага развіцця моладзі.

Любоў і павага да Радзімы бярэ пачатак з ведання сваіх вытокаў і жадання разгадаць тайны даўніны. З мінулых часоў да нашых дзён дайшла тая скарбніца, што найбольш раскрывае светапогляд і нацыянальныя рысы нашага народа. Гэтым бяздонным багаццем з'яўляецца свет казак, легенд і паданняў зямлі беларускай.

**В.К.**

# Для радасці *і натхнення*

**Сяргей Возісаў упершыню атрымаў прызавое трэцяе месца на рэспубліканскім пленэры за скульптуру "Геркулес і леў". Для радасці і натхнення тры гады таму, Гомельскі сквер у цэнтры горада аздобілі скульптурамі з дрэва, зробленымі рукамі майстроў з усёй рэспублікі.**

Менавіта ў Гомелі Сяргей зрабіў свае першыя спробы ў гуртку, які вёў мастак Валянцін Пакаташкін, які запомніўся як шчыры таленавіты чалавек... У вольны час Сяргей заўсёды маляваў. А аднойчы адзін малады паэт з Мінска параіў хлопцу паступіць у Беларускі ліцэй мастацтваў імя Ахрэмчыка, дзе быў конкурсны набор у дзевяты клас.

У "парнаце", як вучні завуць свой ліцэй (зараз каледж), хлопец вучыўся чатыры гады ў выкладчыкаў: Л. Паўлавай, М. Ваўчка, А. Баразеннікава, Л. Дадзенкі. Яны далі моцную пачатковую школу і добрую загартоўку на будучыню.

Спачатку было цяжка, але настойлівасць і праца ў майстэрні, добразычлівыя і таленавітыя выкладчыкі, якія былі нераўнадушнымі да вучобы малодых мастакоў, дапамаглі Сяргею Возісаву паступіць у Беларускую акадэмію мастацтваў. Шэсць год вучобы на аддзяленні "скульптура" мастацкага факультэта прайшлі пад кіраўніцтвам добрых выкладчыкаў, вядомых скульптараў — Аляксандра Фінскага і загадчыка кафедры Уладзіміра Слабодчыкава.

Напэўна, кожнаму творцу хочацца зрабіць нешта сваё, адметнае. Каб яно хвалявала альбо радавала, натхняла ці проста не пакідала людзей абыякавымі. Бо ў гэтым сэнс існавання на зямлі. Дзеля гэтага сюды і прыходзім.

Гэты год для Сяргея Возісава быў спрыяльны: у студзені журы аб'явіла, што ён заняў першае месца ў рэспубліканскім конкурсе на помнік У. Мулявіну (кіраўніку ансамбля "Песняры").

А вясной на рэспубліканскім пленэры "Магілёў. Мінулае і сучаснасць", Сяргей Міхайлавіч заняў першае места за скульптуру ў гранiце "Днепр і Дубравенка".

Жлівеньскі рэспубліканскі пленэр "Скульптурны вернісаж" у Светлагорску быў таксама пасяховым: Сяргей Возісаў атрымаў гран-пры за скульптуру ў граніце "Мысліцеў".

У маладога мастака шмат цудоўных задумак. Хочацца, каб яны здзейсніліся.

**Вера БАРХАТАВА**

Мінскі дзяржаўны вучэбны комплекс гімназія-каледж мастацтваў быў створаны ў 2000 годзе на базе мастацкага ліцэя. Высокі прафесійны ўзровень падрыхтоўкі навучэнцаў каледжа дазваляе ім працаваць творча, браць удзел у рэспубліканскіх і міжнародных выстаўках, пленэрах, конкурсах, а таксама ў розных міжнародных праграмах, якія праходзяць як на тэрыторыі Беларусі, так і ў краінах Еўропы. Падчас адной з такіх акцый адбылося знаёмства каледжа з ліцэем мастацтваў у Супраслі (Польшча). Вынікам гэтага знаёмства стаў абмен вопытам па ўдасканаленні прафесійнай падрыхтоўкі малодых спецыялістаў у галіне дэкаратыўна-прыкладнага мастацтва, жывапісу і малюнка.

# Творчае супрацоўніцтва

Мастацкі ліцэй імя Артура Гротгера ў Супраслі мае багатую гісторыю. На працягу многіх гадоў ён рыхтуе спецыялістаў па ткацтве, разьбе па дрэве, графіцы і жывапісе. У 2004 годзе ліцэю спаўняецца 60 гадоў, і адна з выставак, прысвечаных гэтай даце, будзе праходзіць у Мінску (з 16 снежня) у галерэі Мінскага дзяржаўнага вучэбнага комплексу гімназіі-каледжа мастацтваў. Дзве навучальныя ўстановы, якія знаходзяцца ў розных краінах, вырашаюць адну задачу — выхаванне гарманічна развітай і творча актыўнай асобы.

Выстаўка, якую прывезлі з Супрасля, з'яўляецца працягам творчых кантактаў, далейшай рэалізацыяй планаў супрацоўніцтва. За перыяд 2003 — 2004 гадоў прайшлі тры выстаўкі навучэнцаў Мінскага каледжа ў Супраслі і Беластоку.

Мінскі дзяржаўны вучэбны комплекс гімназія-каледж мастацтваў у чэрвені 2004 года браў удзел ва Усяпольскай выстаўцы навучэнцаў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў па ткацтве і атрымаў ліст-падзяку ад Міністэрства культуры Рэспублікі Польшча за цікавую экспазіцыю.

**В.К.**

# Беларус з Санкт-Пецярбурга

Бываючы часта ў Маскве і друкуючыся ў тамтэйшых часопісах і газетах, я заўсёды гляджу на Санкт-Пецярбург як на загадку.

За фасадам гэтага архітэктурнага горада, горада Дастаеўскага і Блока, таілася Нява, ляжала Марсава поле, хвалявалі ўяўленне сфінксы.

Нарэшце я ў гасцях у пецярбуржца, беларуса Івана Сабілы, пісьменніка, лаўрэата многіх прэстыжных літаратурных прэмій, старшыні праўлення Санкт-Пецярбургскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі, заслужанага работніка культуры Расіі.

І вось мы з Іванам Іванавічам у Саюзе пісьменнікаў. Сабіла адкрывае сход, на якім будуць уручаны пісьменнікам медалі "В память 300-летия Санкт-Петербурга".

Старшыня дае слова паўнамоцнаму прадстаўніку пасольства Рэспублікі Беларусь у Санкт-Пецярбургу Міхаілу Русаму; якога ён запрасіў, ведаючы, што пісьменнікам горада на Няве блізкая наша беларуская зямля.

М. Русы расказвае пра Беларусь, пра палітыку нашай краіны, Прэзідэнта, пра таваразварот паміж Расіяй і Беларуссю і культурныя сувязі паміж нашымі народамі.

Відавочная пісьменніцкая ўвага, расце зацікаўленасць. Сабіла ўмела дырыжыруе сходам, дае слова мне. Гаварю пра літаратурнае жыццё Беларусі, пра нашы выдавецтвы, газету "Літаратура і мастацтва", часопісы (холдынг), пра недзяржаўныя выданні. Задаюцца пытанні па сутнасці.

Чым жыве, чым жа дыхае цяпер Санкт-Пецярбургскае аддзяленне Саюза пісьменнікаў Расіі, якім кіруе беларус?

Пры аддзяленні створана і паспяхова працуе выдавецтва "Дума", выпушчана шмат кніг. Пры дапамозе Саюза пісьменнікаў выдаюцца часопісы, газета "Петербургский литератор".

Іван Сабіла, чые карані ў Мінску, у юнацтве дэбютаваў разам з І. Шклярэўскім у часопісе "Нёман", дэбютаваў таленавіта. Стаў пісьменнікам, чые кнігі чытаюцца і заслугоўваюць перакладу на родную беларускую мову.

На прасторы СНД шмат выдатных беларусаў, сярод іх патрыёт славянства Іван Сабіла. Пабольш бы такіх.

**Фелікс МЫСЛІЦКІ,**
**член Саюза расійскіх пісьменнікаў**



Ф. Мысліцкі з І. Сабілам.


Марыя Іванаўна Гарохава

# «Без ведання сваіх каранёў немагчыма ствараць будучыню...»

*І застаўся адзін бастыён*
*Ля закінутых лісцем прысад,*
*Паласа франтавая,*
*А кажучы шчыра, палоска,*
*Дзе зіхотка гарыць*
*Беларускага слова смарагд, –*
*Беларуская школа*
*І ўся беларуская вёска.*

...Міжволі ўспамінаюцца гэтыя тужлівыя радкі з верша Уладзіміра Верамейчыка пры сустрэчы з беларускай гімназіяй № 14 Мінска. Яна знаходзіцца на памежжы Ленінскага і Заводскага раёнаў сталіцы, над рэчкай у засені высокіх дрэў. У гасцёўнях, любоўна аздобленых адмысловымі беларускімі музычнымі інструментамі, побытавымі рэчамі, вышыванымі ручнікамі, нібы спынiўся, забегшы адпачыць на хвілінку, час. Тут пахне Бацькаўшчынай: вярэдзіць, трывожыць душу — і настройвае яе на светлы лад — і армія калісьці нястомных працаўнікоў-калаўротаў, і габляваныя сталы з грубых дошак, і шматлікія чыгункі і таўкачы, якія спісалі ў адстаўку тэфлонавыя ды электрычныя навацвядзёнкі. А можна сказаць інакш: якія даслужыліся да гонару красавацца на паліцах у якасці музейных экспанатаў.


Калядніки-гімназісты

Тут, у гэтых двух пакоях, сярод "еўрарамонту" і сучаснай аздобы іншых памяшканняў гімназіі, сканцэнтраваны, захаваны, збережаны дух Вёскі, які ўжо і не паўсюль па вёсках знойдзеш.

"Так, я лічу, і павінна быць, — кажа намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Марыя Іванаўна Гарохава. — Мы ўсе — ад зямлі, многія гараджане — учарашнія жыхары вёскі; для многіх яе пах і ёсць пах Радзімы..."

У сталіцы і рэспубліцы гімназія, якая нядаўна займела нумар чатырнаццаты, больш вядомая як школа-гімназія № 111. З 1991 года яна працуе як беларуская, а дырэктара, пры якім набыла гэты статус, — Канстанціна Антонавіча Пісарыка — добра памятаюць і ў настаўніцкім, і ў творчым асяродку сталіцы, бо ён быў сапраўдны падзвіжнік, энтузіяст беларускага адраджэння.

Адсюль, з гэтых сцен — славуты ансамбль "Дударыкі" пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча культуры Беларусі Дзмітрыя Ровенскага, вядомы не толькі ў рэспубліцы, а далёка за яе межамі...

Як жа пачуваецца сёння гэты "бастыён"? Што робіцца дзеля захавання набытых традыцый? Дадзім слова Марыі Гарохавай:

*— Мы імкнёмся захаваць у гімназіі беларускамоўнае асяроддзе: у нас урокі вядуцца па-беларуску, усе школьныя мерапрыемствы — таксама. Трыццаць пяць год працуе славуты ансамбль "Дударыкі". Галоўная мэта гэтага калектыву — прапаганда беларускай народнай песні і танца. На шчасце, калектыў расце, у нас ёсць і старэйшы склад, і малодшы. Цешыць, што ў Дзмітрыя Ровенскага, кіраўніка ансамбля, знайшліся маладыя пераемнікі: Надзея Мішчанка, Вікторыя Чарнова, Аксана Ровенская. Яны працуюць з вучнямі па індывідуальных праграмах навучання ігры на музычных інструментах і па класе вакала. Вельмі цікавы рэпертуар у Надзеі Аляксандраўны — ён складаецца з малавядомых беларускіх песень. Акрамя гэтага, мы ўзяліся ў межах нашай школьнай праграмы "Спадчына" рабіць пастаноўку беларускіх святаў календарна-абрадавага і сямейнага цыклаў. Кожны клас мае свой невялічкі праект, за год збірае матэрыял і ажыццяўляе пастаноўку абраду. Пасля абрад ставіцца на школьнай сцэне. Дзецям гэта вельмі падабаецца, іх цікавіць сэнс атрыбутыкі, дзеянняў. І яны маюць магчымасць атрымаць дасведчаныя тлумачэнні, бо нашым кансультантам доўгі час быў вядомы фалькларыст Янка Крук. Мы ўжо ажыццявілі пастаноўку абрадаў "Заручыны", "Вяселле", "Радзіны", "Вялікдзень"...*

*З'яўляемся ўдзельнікамі і арганізатарамі раённых святаў. Традыцыйны "Восеньскі кірмаш" без нас не абыходзіцца, "Калядкі", "Гуканне вясны" — таксама.*

*Працуе ў нас літаратурная гасцёўня. Вядзе яе заслужаны настаўнік гімназіі — ёсць у нас такое званне — настаўніца беларускай мовы і літаратуры Лідзія Ермакова. Па яе ініцыятыве адбываюцца цікавыя сустрэчы з беларускімі паэтамі і пісьменнікамі. За апошні час мы сустракаліся з Раісай Баравіковай, Міколам Чарняўскім, Уладзімірам Арловым, Алесем Бадаком, былой рэдакцыяй часопіса "Першацвет"...*

*Маем надзвычай цікавы клуб "Роднае слова", які вядзе Ганна Макарава, маладая настаўніца. Клуб гуртуе гімназістаў — аматараў прыгожага пісьменства і дапамагае ўдасканальваць, шліфаваць пісьменніцкае пяро. Клуб выпускае свой літаратурны альманах — у мінулым годзе ён заняў першае месца на раённым конкурсе.*

*Карыстаючыся магчымасцю, хацелася б звярнуць увагу Саюза пісьменнікаў на нашу літаратурную работу: мы маем што паказаць сапраўдным майстрам пяра...*

Падчас нашай гаворкі я ўсё старалася скіраваць шаноўную Марыю Іванаўну да развагі пра тое, якой дапамогі, увагі чакае гімназія ад творчай інтэлігенцыі сталіцы. Бо нялёгкую, адказную справу па захаванні нацыянальнага, самабытнага, роднага добра рабіць, адчуваючы поплеч сяброў, іх падтрымку і зацікаўленасць.

А яна, успомніўшы добрым словам некалькіх пісьменнікаў ды паэтаў, навукоўцаў, кампазітара Ігара Лучанка, спевака Івана Краснадубскага, Таварыства беларускай мовы — за запрашэнні на семінары, дзе з настаўнікамі дзяліліся методыкай выкладання прадметаў, раптам сказала, нібы сама плячо падставіла тым, хто дбае пра развіццё роднага слова, нацыянальнай культуры:

**— Хацелася б, каб наша творчая інтэлігенцыя помніла, што сярод штодзённых клопатаў і вялікіх спраў, якія здзяйсняюцца ёй, ёсць беларускі астравок, дзе заўсёды можна знайсці сяброў. І гэты астравок — наша гімназія. Прыходзьце да нас, у нашым доме вам заўсёды рады! І запрашаем нас да ўдзелу ў літаратурных і мастацкіх акцыях. Мы з задавальненнем далучымся да таго руху, які прапагандуе беларускае слова, беларускую культуру. Без гэтага немагчыма будаваць будучыню — гэта нашы карані!**

— Любыя сцены жывуць датуль, пакуль напоўнены духам. Асабліва ж, калі імя ім — "бастыён".

Гімназія, збудаваная яшчэ ў 1968 годзе, за гады службы людзям абнасілася, вымагае капітальнага рамонту. Вяртаннем будынка да жыцця занята сённяшні дырэктар школы Святлана Босая. Трэба сказаць вялікі дзякуй гэтай энергічнай і валявой жанчыне за тое, што за кароткі тэрмін у вялізнай гаспадарцы яна зрабіла многа дзеля таго, каб гімназія мела права звацца "другім домам" для дзяцей, якія прыходзяць сюды — вучыцца на роднай мове. Сёння прыемна зайсці ў адрамантаваныя памяшканні, дзе зімой ужо не замерзнеш: была і такая праблема.

У гімназіі ёсць свой басейн — і гэта таксама адзін з магнітаў, які прыцягвае да яе позіркі бацькоў, якія думаюць, куды аддаць дзяцей вучыцца.

Безумоўна, не мінаюць гімназію праблемы, агульныя для ўсіх беларускамоўных школ у рускамоўным асяроддзі. Можна многа разважаць і спрачацца аб іх вытоках...

Але хочацца, каб, прачытаўшы назву рубрыкі "Адрас клопату", кожны з творцаў і людзей, неабыякавых да лёсу роднай мовы, традыцый, не праблемы згадваў, а падумаў пра тое, якую рэальную падтрымку можна здзейсніць, каб умацаваць гімназію, дух "бастыёна", які вядзе нястомную працу па захаванні астраўка беларушчыны для ўсіх нас.

Каб ён хаця б не здаваў пазіцый на "палосцы", скрушна абазначанай паэтам "франтавой"; каб мацаваўся, не падаў дух яго абаронцаў; каб не затапіла яго мора абыякавасці і пустых спрэчак.

Сама гімназія старэецца трымацца абранага курса і ўпарта рухаецца па абранай сцежцы.

Далучайцеся, сябры, да яе хады ў будучыню!

**Алена МАСЛА**

***Фота аўтара***

## ВЫДАННІ




У кнізе Алесі ШАМЯКІНАЙ "ВОБРАЗЫ МІЛЫЯ РОДНАГА КРАЮ..." упершыню даследуюцца паняцці "прастора" і "час" у трылогіі Якуба Коласа "На ростанях"; іх месца і роля ў коласаўскім выяўленні прыроды, нацыянальнай гісторыі, фарміраванні духоўнага свету народнага абаронцы, барацьбіта за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, якім паўстае галоўны герой твора Андрэй Лабановіч. Даследаванне адзінства тэмы прыроды і нацыянальнага характару дазваляе ў многім па-новаму зразумець трылогію "На ростанях".




Загадкі належаць да тых жанраў беларускага фальклору, у якіх найбольш ярка праявілася мудрасць народа, яго тонкая жыццёвая назіральнасць, любоў да паэзіі, трапнага слова. Кніга "ЗАГАДКІ", выдадзеная Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі, з'яўляецца навуковым выданнем беларускіх народных загадак, сабраных з максімальнай паўнатой. Зборнік забяспечаны грунтоўным уступным артыкулам, навуковым каментарыем і паказальнікам збіральнікаў.




Вывучэнне анамастычнай лексікі — асабовых уласных імёнаў, мянушак, прозвішчаў, разнастайных тапанімічных назваў, псеўданімаў, іх разнавіднасцей у беларускім моваязнаўстве і літаратуразнаўстве пачалося параўнальна нядаўна. Манаграфія Васіля ШУРА "АНАМАСТЫЧНАЯ ЛЕКСІКА Ў БЕЛАРУСКАЙ МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ" дае магчымасць азнаёміцца з цікавымі фактамі і дадедаца пра паходжанне многіх імёнаў, прозвішчаў і г.д. вядомых літаратурных персанажаў.

*"Чытанне зрабіла Дон Кіхота рыцарам, а вера ў прачытанае зрабіла яго вар'ятам"(Джордж Бернард Шоу). У падобных выпадках аўтар з'яўляецца выдатным стратэгам, а чытач... Правакаванне нашых здольнасцей даваць ацэнку таму, што адбываецца ў тэксце, выклік інтэрпрэтацыі, перажыванняў — гэта стратэгія тэксту. І яна бывае рознай...*




**У полі зроку Наталлі Дзянісавай**

# СТРАТЭГІЯ ТЭКСТУ

**"Маладосць" № 11.**

Адкрываецца часопіс вершамі Вольгі ТРАЦЦЯК. *"Ты можаш стаць словам // Агульнага ўжывання // і простага зместу"*, — піша маладая паэтка, чые творы прэтэндуюць на філасофскую заглыбленасць. Менавіта прэтэндуюць, таму што разам з нечакана-свежымі вобразамі маюць не заўсёды дакладна выказаную думку.

Апавяданне-фэнтэзі Віталіі БАГУН **"Дзеці духа ветру"** — пра каханне. Згодна зместу апавядання і тлумачэнню аўтаркі, "у творы дзейнічаюць дзве расы: гараны (саманазва — перы) і даліняны. Гараны маюць крылы, светлую скуру і валасы, блакітныя вочы. Жыхары далін — цёмныя і смуглыя, без крылаў". Гэты твор можна назваць прыгожай казкаю, дзе дабрыня і каханне перамагаюць зло, своеасаблівым аповедам пра Рамэо і Джульету, толькі са шчаслівым завяршэннем любоўнай гісторыі.

Паэт Мар'ян ДУКСА *"цешыцца ўсяму, // што ў свет прыйшло паводле волі Бога"*, і ўсё, што прыносіць дзень сённяшні, чым жыве аўтар і людзі, якія побач, дае падставу для элегічнага роздуму, для асэнсавання жыцця.

Далёкая і гераічная гісторыя знайшла сваё ўвасабленне ў апавяданні Янкі СІПАКОВА **"Воўчыя ямы"**. У цэнтры твора — вобраз Ягайлы, караля Польшчы, што паўстае велічным і мудрым валадаром. Гістарычная праўда спалучаецца ў творы з аўтарскім уяўленнем, фантазіяй, дзякуючы чаму героі не падаюцца хадульнымі, а маюць яркія рысы характараў.

**"Зімовыя вершы"** Святланы ЯВАР — лірыка "зімовага" кахання, калі *"Дужа хочацца ўбачыць святло // У замерзлым тунелі расстання"*. Пяшчотнасць і эмацыянасць з'яўляюцца асноўнымі рысамі гэтай падборкі вершаў.

Павел МІСЬКО, відавочна, заглыблены ў сацыяльна-грамадскія праблемы сучаснасці. Яго аповесць **"Зялёныя змеі"** — свайго роду крык душы пра набалелае: наступствы экалагічнай катастрофы, сацыяльная несправядлівасць нашага жыцця, праблемы чалавечых узаемаадносін, канфлікты бацькоў і дзяцей. Можна сказаць, што пісьменнік — перакананы рэаліст, а вось песіміст ці аптыміст — будзе вядома з наступнага нумара часопіса, дзе чакаецца працяг аповесці.

Вольга КУРТАНІЧ прапаноўвае цыкл вершаў **"Пашанотны спеў у гонар Святога Авера"**. Тут асноўнымі рысамі можна назваць пачуццёвасць і загадкавасць, вытанчаную жаноцкасць. Але доўга і лагічна разважаць над творамі не трэба: *"Хай застанецца логіка ў вершах // ці музыцы, каб не было бяды"*.

Выбух эмоцый і накал пачуццяў можна перадаць не толькі вершам, але і прозаю. Сведчанне таму, апавяданне **"Кэдр"** дэбютанта "Маладосці" Адама ШОСТАКА. У творы стратэгічна прадумана абрынаецца на чытача вадаспад унутраных маналогаў, дыялогаў, перапляценняў рэальнай сітуацыі з трызненнем.

*"Прагнаў я свой настрой паганы, // І клопаты ўжо не душаць"*, — прызнаецца Яўген КАРШУКОЎ, ёсць час успомніць маці, каханую, сябра, звярнуцца са словамі шанавання да роднай зямлі...

**"Полымя" № 11.**

У адрозненне ад Я.Каршукова, Івана КАРЭНДУ даймаюць невясёлыя думкі, і настрой ад гэтага зусім іншы: *"Штодня дуэль — дуэль з сабою, // Штодня забіты шмат разоў, // А думкі горкія гурбою // Мяне палоняць зноў і зноў"*. Паэт востра адчувае дысбаланс паміж рэчаіснасцю і ўласнымі памкненнямі душы, адсюль і адпаведная настраёвасць яго твораў.

**"Марыянеткі і лялькаводы"** называецца раман Міхася ЮЖЫКА. А калі ўзгадаць вядомае "Жыццё — тэатр, а людзі у ім — акцёры", то сюжэтная аснова твора пра тэатральнае жыццё правамерна набывае больш глыбокі сэнс. Да таго ж, акцёры, героі твора, звычайныя людзі са звычайнымі і вельмі знаёмымі нам праблемамі і клопатамі.

Радок Васіля МАКАРЭВІЧА *"А гэты верш — сапраўдная петыцыя"* мог бы стаць эпіграфам да ўсёй падборкі яго твораў. Выразная грамадзянская пазіцыя, якую паэт яшчэ старанна падкрэслівае, надае вершам празмерную публіцыстычнасць і мастацкія вобразы часта замяняе лозунгамі або петыцыямі.

Яўген МІКЛАШЭЎСКІ працуе калі не ў тым жа рэчышчы, то недзе блізка: *"Прырода мой кумір, і да яе // Я ўсё часцей звяртаюся з петыцыяй"*. Тым не менш, гэты паэт у большай ступені лірык, а сваю грамадзянскую пазіцыю ён выказвае ненавязліва, без дыдактызму.

Павел ГАСПАДЫНІЧ — лірык у прозе. Яго апавяданне **"Подых, ці па сцежках містычных кахання"** з'яўляецца вандроўкай і па літаратурных, і па жыццёвых сцежках. *"А як знайсці патрэбную сцежку ў лабірынце жыцця? Дзе мой Богам наканаваны шлях?"* — няшчыра задаецца традыцыйна-рытарычнымі пытаннямі аўтар. І, магчыма, добра, што падобныя перажыванні — толькі пазёрства, бо паводле аўтарытэтнага меркавання Зігмунда Фрэйда, "калі чалавек пачынае цікавіцца сэнсам жыцця ці яго каштоўнасцю, гэта значыць, што ён хворы".

Жанчыны, адзінокія, з паламанымі лёсамі і беспрасветным жыццём з'яўляюцца герамі апавяданняў Ніны РЫБІК **"Кулініна каханне"** і **"Дараванне"**. Пісьменніца блізка да сэрца прымае цяжкасці сваіх герані і прымушае тое ж рабіць чытачоў. Адным словам, стратэгія.

"Мы прапануем увазе чытачоў незавершаную аповесць пісьменніка, — пішацца ў прадмове да наступнага твора, — астатні жыццёвы роздум прызнанага Майстра Слова". Такім чынам, на старонках "Полымя" змяшчаецца незакончаная аповесць Міколы КУСЯНКОВА **"Выпіць на брудэршафт"**. Твор аўтабіяграфічны, напоўнены роздумам над жыццём, над уласным пройдзеным шляхам.

**"Нёман" № 11.**

Адкрываецца гэты часопіс паэтычнай падборкай Людмілы РУБЛЕЎСКАЙ **"И промчатся года..."** Пра паэзію яна гаворыць наступнае: *"Ей места нет в быту. Но хватит сил // Вдруг вырваться из золоченых рамок"*, *"Наших строчек не простят нам, Боже, // Наши строчки не простят нам тоже"*. Выказаўшы такім чынам сваё эстэтычнае крэда, паэтка працягвае роздум над жыццёвымі праявамі і чалавечымі слабасцямі.

У аповесці Уладзіміра САЛАМАХІ **"Опознается личность мужчины"** расказваецца пра пакручасты чалавечы лёс. Тыповасць гэтага лёсу падкрэсліваецца адсутнасцю імя галоўнага героя — ён проста Чалавек.

Ужо з назвы паэтычнай падборкі Івана КАПЫЛОВІЧА — **"Родине нужен своей"** — становіцца зразумелым кірунак яго творчасці. І сапраўды, паэт імкнецца да адлюстравання глабальных праблем сучаснасці, а паводле слоў яго перакладчыка Эдуарда Скобелева, "яму няма канкурэнтаў на ніве непрыкрыта маральнай і публіцыстычнай паэзіі". Між іншым, я лічу гэту думку вельмі суб'ектыўнай і занадта катэгарычнай. Аднак яе з'яўленне становіцца зразумелым з пункту погляду стратэгіі тэксту. Зрэшты, кожнаму сваё.

Дэбютантка часопіса Наталля КАСЦЮК прапануе **"Детдомовские рассказы"**, створаныя на сапраўдным жыццёвым матэрыяле, як кажуць, з веданнем справы, бо Н.Касцюк — супрацоўніца дзіцячага дома. Супярэчлівасць і безабароннасць духоўнага свету дзяцей — так можна акрэсліць асноўны змест гэтых цікавых і праўдзівых апавяданняў.

Вадзім СПРЫНЧАН прысвяціў нізку вершаў маладой паэтцы Валерыі Куставай, якая ўяўляецца аўтару як **"Воскресающей Родины вестница"**. Адно магу сказаць: В.Спрынчан — вялікі рамантык...

А вось Людміла ШАДУКАЕВА, наадварот, паэтка-рэалістка, чые творы пад агульнай назвай **"Сокровенная вера"** дэманструюць канкрэтную жыццёвую прывязку (верш "Трагедия Беслана") і напрыстую, але не прафесійную публіцыстычнасць.

*"Мой мир себя зажал в тисках плацкартного вагона"*, — піша яшчэ адна дэбютантка нумара Юлія ШАБУНЯ. Творчасці гэтай дзяўчыны ўласцівы пошук формы, вобразаў і арыгінальнасць мыслення.

**І сапраўды, як той казаў, "пісьменнікі пісаваюць, чытачы пачытваюць". А што ў выніку? Пра вынік, па ўсім відаць, задумваецца далёка не кожны аўтар. Аднак усё вытрымае папера, але не чытач, таму мэтазгодна валодаць стратэгіяй тэксту.**

# Архаіка і яе «філіялы»



Кожны новы "выбух у культуры", чарговы фінал чарговай эпохі ўсё больш імкліва набліжаюць нас да Пачатку, якім ёсць для Сучаснасці Архаіка. "*Сціскаецца прастора, як сіло*", — заўважыў паэт-філосаф Алесь Разанаў у "Паэме чырвоных вяровак". Між тым, "выгінаецца" ў кола і ***час***: пераблытваюцца карані будучыні і лістоўе памяці — і наступнае прарастае ў папярэднім.

"...чалавек заўсёды мысліў аднолькава "добра"; прагрэс... адбыўся не ў мысленні, але ў свеце, дзе жыло чалавецтва, надзеленае мысленчымі здольнасцямі, і дзе ў працэсе доўгай гісторыі сутыкалася з усё новымі з'явамі", — зазначаў К. Леві-Строс у "Структурнай антрапалогіі, перакананы, быццам міф угрунтаваны ў той жа "няўмольнай логіцы", што і пазітывізм, а розніца вынікае не столькі з якасці лагічных аперацый, колькі з прыроды той альбо іншай з'явы, якая трапляе ў сферу аналізу. Рухомая панарама сучаснай культуры пераконвае ў тым, што мастацтва не пагружаецца ў архаіку *на нейкі час* (як мяркуе К. Міле, "гісторык" французскага мастацкага авангардызму), яно хутчэй спрабуе апавядаць *не* пра ўласнае нараджэнне — і нязменна пераконваецца ў марнасці тых намаганняў.

У сённяшняй літаратурнай прасторы адзнакі адмысловай *архаізацыі* выяўляюцца на розных структурных узроўнях, што ёсць натуральным наступствам укаранёнасці самога тыпу мастацкага мыслення, які вызначае характар найноўшай культуратворчасці, у архаічным — "даміфалагічным" — светаадчуванні. Важна адрозніваць паняцці "*архаічнага*" і "*міфалагічнага*" мыслення, бо "ўмоўнасць" дэфініцый не адмяняе якаснага адрознення мысленчага вопыту *Homo sapiens sapiens* (чыя "гісторыя" налічвае 30-40 тыс. год) і *Homo sapiens* (якому, па самых розных падліках, аніяк не можа быць менш, чым 50 тыс. год). Відавочна, што міф як *тып мыслення* не мог скласціся "раптоўна", гэтаму павінна было папярэднічаць працяглае назапашванне пазнаваўча-мысленчага вопыту. Вытокі самога міфа ўзыходзяць да архаічнага ("даміфалагічнага") рытуалу.

На думку многіх даследчыкаў, рытуал больш старажытны, чым міф, бо формы рытуальных паводзінаў можна выявіць нават у жывёл. Сама сімвалічная прырода міфа, як і іншых, больш позніх форм культуратворчасці, вынікае, такім чынам, са спецыфікі рытуальнай дзеі. Для архаічнага чалавека рытуал быў "сапрыродны акту тварэння, аднаўляў яго сваёй структурай і сэнсам і наноў адраджаў тое, што ўзнікла ў акце тварэння" (У. Топараў). Рытуальная дзея мела бясспрэчна сакральны характар, разгортваючыся як "канцэпт" сімвалічных сэнсаў і аперацый, з дапамогай якіх людзі інтэрпрэтуюць сілы, што фарміруюць аблічча свету і кіруюць гэтым светам.

Калі *рытуальны* генезіс "гатовых трафарэтаў" міфалагічнага мадэліравання свету старажытным чалавекам не выклікае пярэчанняў, дык сучасніку пагадзіцца з "трафарэтнасцю" і мысленчага тыпу, носьбітам якога ён з'яўляецца, і, адпаведна, плёну ўласных мысленча-пазнаваўчых намаганняў, значна цяжэй.

Між тым, асобныя складнікі агульнай рытуалізаванасці найноўшай мастацкай свядомасці шматкроць акрэсліваліся ў навуковых (і *квазі*навуковых) рэфлексіях: напрыклад, канстатаваўся "паўфабрыкатны" характар не толькі масліту, але і сучаснага авангардызму, у тым ліку шэрагу плыняў, апантаных "месіянскімі" ідэямі ў дачыненні да нібыта "спарахнелай" традыцыі (канцэптуалізм, сацарт); ахвяраванне *аўтарствам*, асобаснасцю на карысць *аўтарытэту*, пазаасабовасці мела наступствам узвядзенне цытатнасці, нават пэўнай "цэнтоннасці" ў ранг "анталагічнага" прынцыпу сучаснай словатворчасці; постмадэрновая інтэртэкстуальнасць пачала набываць рысы сапраўды *рытуальнага* ўшанавання тэкстаў, усведамляемых ды інтэрпрэтуемых Сучаснасцю ў якасці "сакральных", — і г.д., і да т.п. Цікава назіраць, як некаторыя "прыёмы", што яшчэ ў творчай прасторы 1960-х — 1980-х гадоў уважаліся за адкрыцці літаратуры "аўтарскай", у мастацтве пачатку XXI стагоддзя асэнсоўваюцца як спадчына "калектыўнага бессвядомага", як адчужэнне індывідуальнасці ад самога акта творчасці: так, *міфалагема* сталася першаю "ахвяраю" татальнай "міфалагізацыі" гуманітарных ведаў, бо запазычанне ў міфа матыву, тэмы ці яе часткі быццам перастала *ўсведамляцца* творцамі, якія адчулі сябе "рэтранслятарамі" таемных сэнсаў, медыумамі эпохі Пост (якая ў прынцыпе можа расцягнуцца да памераў вечнасці).

Гэтаксама ўварванне ў найноўшую літаратуру *рымейкаў* незаўважна ператвараецца з наватарскага *прыёму* ў *топас*, "агульнае месца", што непазбежна вядзе да перамогі масавай "вытворчасці" над спараджэннямі "індывідуальна-творчых" актаў. Само паняцце "рымейку" сёння — з прычыны сваёй "сакральнай" прыцягальнасці для крэатыўна настроенай публікі — можа абазначаць бясконца многае, і не азначаць анічога. Калі суадносіць яго з любой "апеляцыяй" да ранейай створанага *тэксту* (сховішча сэнсаформаў), дык уся вядомая нам гісторыя сусветнага прыгожага пісьменства асветленая пуцяводнаю зоркаю "рымейкавасці", бо яшчэ ў архаічным фальклоры сфармуляваліся практычна ўсе асноўныя прынцыпы канструявання мастацкага вобраза: структура метафары, прынцып метанімізацыі, прынцыповая схема сюжэта і г.д. Калі атаесамляць рымейк з "пераробкаю" тэкстуасновы, дык, пры здольнасці сучаснае рэфлексіі не зважаць на "нюансы" ў карасканні да вяршыняў "універсальных ісцін", давядзецца пагадзіцца з "другаснасцю" такіх твораў як, напрыклад, "Іосіф і ягоныя браты" Томаса Мана альбо "Уліс" Джэймса Джойса, чыя *арыгінальнасць, адзінкавасць* мне падаецца неаспрэчнаю.

Дый у найноўшай гісторыі літаратуры час ад часу з'яўляюцца творы, што вымагаюць ад чытача (крытыка і не-крытыка) пільнасці. На першы погляд, "Старасвецкія міфы горада Б*" (2002) Людмілы Рублеўскай ці "У Замак" (2004) Марыяны Грубер з лёгкасцю ўкладваюцца ў немудрагелістыя жанравыя каноны рэмейкаў (антычных міфаў і "Замка" Франца Кафкі — адпаведна). Абедзве кнігі насамрэч ёсць прыкладам "міфацэнтрычнай" літаратуры (сп-ня Рублеўская пазычае міфемы ў *класічнай* антычнасці, сп-ня Грубер — у *класічнага* ж мадэрнізму, што для "гісторыі-пост" таксама з'яўляецца своеасабліваю "антычнасцю", у сэнсе адмысловай "узорнасці"); але "класіка" і для беларускай, і для аўстрыйскай пісьменніц ёсць не *тэрыторыя гульні*, але *сфера творчасці*, дзе апошняму паняццю вяртаецца яго аўтэнтычны, калі заўгодна — "архаічны" — сэнс: творчасць як дэміургічнасць, аднаўленне ў міфе (тут — "аўтарскім", выразна асобасным) "нованароджанага" сусвету.

"Міфалогія" сучаснага гуманітарнага досведу паступова пачынае функцыяніраваць як інтэрпрэтацыйная сістэма, прызначаная для "перакладу" складаных культурных феноменаў у іх аднамерныя адбіткі-схемы: *нібыта* адно і тое ж, але сутнасць самой "аперацыі" роўная спробе пераканаць спажыўца "культурнай прадукцыі", што Ізаўра/Мануэла/Роса ці любая іншая гераіня кніжнага альбо тэлевізійнага серыялу — *нібыта* Ганна Карэніна, а Біл/Джэк/Боб ці які-заўгодна "рухавік дзеяння" ў творы жанру "action" ёсць версіямі (роўнавартаснамі ў мастацка-эстэтычных адносінах) тыпаў ваяроў, створаных Эрнестам Хемінгуэем, Эрыхам-Марыяй Рэмаркам альбо Васілём Быкавым.

З другога боку, сустрэча Сучаснасці з Архаікай будзе азначаць і вяртанне чалавека ў іншы, адрозны ад сённяшняга, Космас. Так, апазіцыя "жыццё — смерць" у мастацтве Новага часу асэнсоўваецца як пэўная метафарычная канструкцыя, але ж у архаічнай свядомасці смерць "не ёсць небыццё: рэальнасць яе непасрэдная і рэчыўная, як рэальнасць жыцця" (М. Лейтэс). Абвостранае адчуванне крызіснасці чалавечага быцця ёсць непазбежным наступствам любога "злому" эпох, але з кожным новым "уварваннем дэкадансу" катастрафізм светаадчування ўзмацняецца — для сучасніка "эсхаталагічнасць" становіцца чыннікам паўсядзённасці.

У сферу прыцягнення "*некрапалічнасці*", гэтага "знаку якасці" *найноўшага дэкадансу*, трапляюць прадстаўнікі розных літаратурных традыцый, змушаныя часткова "ахвяраваць" уласнаю адметнасцю, аўтэнтычнасцю, "суверэнітэтам" — падчас інтэграцыі ў агульналітаратурны *некропаль*, "тапаграфіі" якога сёння можна прысвяціць шматтомны збор твораў. Згадайма, напрыклад, раманы "Жыццё з таго боку" француза Д. ван Кавялера, "У гадзіну бітвы заўтра пра мяне згадай..." іспанца Х. Марыяса, "Хвароба Кітахары" немца К. Рансмайра, "Лёгкі сняданак у ценю некропаля" чэха І. Грошака, "Бог дробязяў" індыйскай пісьменніцы А. Рой, "Дом Духаў" чылійкі І. Альендэ, "Краіну Цудаў без тармазоў і Канец свету" японца Х. Муракамі; прозу, паэзію, эсэістыку суайчыннікаў — А. Разанава, А. Жука, В. Казько, Ю. Станкевіча, Л. Галубовіча, Я. Рагіна, Ю. Голуба, Б. Пятровіча, В. Шніпа, А. Казлова, А. Мінкіна, А. Бадака, М. Клімковіча, Л. Сом, А. Глобуса, а таксама маладзейшых — Зм. Вішнёва, А. Бахарэвіча, М. Баярына, В. Жыбуля, В. Бурлак, В. Морт, В. Гапеевай, Зм. Пляна і інш. Смерць як фіналу жыцця — і як *іншаму* жыццю — ніколі не бракавала ўвагі з боку мастацкай славеснасці, але, бадай, ніколі яшчэ "тэрыторыя смерці" не асвойвалася літаратураю з такім... імпэтам. Гэта *калісьці*, скажам, "у першай палове XX стагоддзя, на Віленшчыне, людзі не паміралі, — сведчыць Тадэвуш Канвіцкі ў дакументальнай кнізе "Памфлет на самога сябе" (1995). — Не памятаю, каб у дзяцінстве ці ранняй маладосці хто-небудзь памёр. Натуральна, не абходзілася без выключэнняў, і, верагодна, зрэдчас хто-ніхто ўпотайкі перабіраўся на той свет. Але ж наогул паміраць было не модна. <...> ...Толькі сучаснасць... дэмакратызавала чалавечую смерць. Сёння я ўжо безуважна, прыхлёбваючы гарбату, гляджу на піраміды трупаў на тэлеэкране, як тое робяць мільёны маіх братоў, асуджаных на закланне".

Здаецца, ніколі яшчэ літаратары не адчувалі сябе ў "свеце-некрополі" так *утульна*: "Смерць для нас — другая маці. Калі чалавек тут мае братоў, ён можа меці іх і ў іншым свеце — ранейшых і новых" ("Твар і патыліца"); "Калі чалавек нараджаецца на свет, ён трапляе ў магілу чарговага цела. Смерць, у пэўным сэнсе, проста перапахаванне з адной магілы ў іншую" ("Пахаваныя ў небе"). Працытаваныя тэксты — з кнігі Юрася Барысевіча "Alter Nemo" (2003) — уяўляюцца своеасаблівымі "эпіталамамі" (вясельнымі песнямі) у гонар шлюбу архаічнай эсхаталогіі і сучаснага "культурасофскага" досціпу. Калі ў творчасці былых бумбамлітаўцаў і літаратараў-"неафітаў" ***мартальнасць*** з'яўляецца адным са структураўтваральных паняццяў, дык пакаленне "Тутэйшых" (да якога мы залічваем не толькі тых, хто непасрэдна спрычыніўся да дзейнасці суполкі), што нагадвае *брацтва самотнікаў*, шануе традыцыю табуіравання, не-прамаўлення (без дай прычыны) імёнаў Нябыту. У кітайскай літаратуры III стагоддзя захоўвалася адметная разнавіднасць лірыкі — "Хаўтурныя песні" ("Вань гэ") — трэнас паэта па сабе самім, які аднаўляў невыноснае, амаль фізічнае адчуванне ўласнай смерці і разлажэння. Сімптаматычна, што *некрапалічнасць* найноўшай мастацкай літаратуры, як правіла, *пазбаўленая "персанальнасці"*, своеасаблівай "фізіялагічнасці". (Тое было ўласцівае якраз для глыбокай Архаікі, "аднаўляемай" у тэкстах архаічных эпасаў, што папярэднічалі літаратурам нават "старой" Старажытнасці). Сёння *некрапалічнасць* найчасцей рэалізуецца ў вобразах-сімвалах, абстрагаваных амаль да аўталагічнасці, "бязвобразнасці" (смерць як Вялікае Нішто і Нідзе, мегаполіс як "зона смерці", паміранне-зыход у наўмысна неакрэсленых дэкарацыях і г.д.): "...Гэта неба і зямля сальюцца // Там, дзе нас чакае небыццё. // Гэта ў бойцы поўнасцю сатруцца // Межы паміж смерцю і жыццём" (А. Бадак). Смерць рытуалізуецца — і сучаснік адчувае палёгку: адчай вусцішы замяняецца страхам, да якога (маем вопыт!) можна прывыкнуць.

"Знакі прысутнасці" Архаікі (*быццам* "дробныя", *нібыта* "невыразныя") у нашым сённяшнім наўрад ці можна *паралічыць* — проста таму, што яны бесперапынна множацца, засяваючы "бледную ніву" (А. Разанаў) сучаснасці, якая спакваля ператвараецца ў "***філіял***" **Архаікі**, што ў хуткім часе паўстане рэальнасцю далёка не віртуальнаю. Але ж, наталюючыся новадэкаданснаю самотнасцю, прыгожае пісьменства ў сваім "жыццясмертным" узросце не звяртае ўвагі на ДРОБЯЗІ.

**Ірына ШАЎЛЯКОВА**

***Фота забяспечана аўтарам***



Святлана ЯВАР

* * *

*Людзі ходзяць пад парасонамі.*
*Я – здаецца з акна – як плыву…*
*Дрэвы восенню жоўта-зялёныя,*
*Ціха падае лісце ў траву.*

*І чамусьці сумую душою.*
*Каб збыліся чаканні мае,*
*Трэба менш паддавацца настрою.*
*Ці ж для гэтага моцы стае?..*

*Дык хацела б сапраўднага ўзлёту:*
*Вольнай птушкай узняцца ў блакіт…*
*На зямлі толькі праца да поту,*
*Ад якой часта плачаш наўзрыд.*

*А ўсё роўна я веру ва ўдачу,*
*Спадзяюся – палепшыцца лёс.*
*Абяцаю, што шчодра аддзячу*
*Богу, Долі, як менш будзе слёз…*

* * *

*Кудысьці спяшае вясельны картэж,*
*У іншы бок рушыць аўто пахавальнае.*
*Няхай у душы тваёй бунт і мяцеж,*
*Але ж у жыцці ёсць і ўхвальнае.*
*А я спадзяюся на лепшае ўсё ж,*
*Чакаю ад лёсу прывету.*
*Хацела б па зорках прайсці басанож,*
*Бо я шчэ патрэбная свету…*

* * *

*Я хацела б цябе напаткаць*
*На дарозе, якою хадзілі*
*Яшчэ разам… Цябе выглядаць*
*Я з акна не хачу… Заблудзіла*

*На шырокіх жыццёвых шляхах*
*І пытаю цябе ў задуменні:*
*Як пакаяцца мне ў тых грахах*
*Так, каб Божае ўбачыць праменне?*

*Чым правіну сваю прад табой*
*Змыць магу я – слязьмі ці крывёю?*
*Адчуваю сябе – не сабой,*
*Покуль зноўку не буду тваёю…*

* * *

*Нясціплаю здаюся вам, панове,*
*Вы вучыце мяне, як трэба жыць.*
*Я застануся жыць у родным слове,*
*Вам давядзецца жыць, як набяжыць.*

*Так, я нясціплая. Не шэрая. Не тая.*
*Але з-за гэтага не лезці мне ў пятлю.*
*І дзён сваіх я каляндар гартаю,*
*І па-ранейшаму жыццё люблю.*

*Не запіхнеце вы мяне ў стандарты,*
*Якімі кіравацца толькі вам.*
*Перад сабой расклала зноўку карту…*
*Мой карабель адкрыты ўсім вятрам.*

Міхась МАМОНЬКА

* * *

*Хлістаў вятрыска*
*ў твар мяне.*
*Часамі*
*З ног зусім збіваў, –*
*А я,*
*Без горкае нуды,*
*Сябе*
*Гадамі не стамляў.*
*На скроні*
*Легла сівізна,*
*І пацяжэў,*
*стаміўся крок.*
*Затое,*
*Стала галава*
*Відаць, як сонца,*
*Кожнаму*
*Здалёк.*

## Тапаля

*Цішай агорнутая,*
*Поўная дум векавых,*
*У неба направіла голле,*
*У неба направіла слых.*
*Яна – памяць жывая*
*Продкаў маіх.*

## Зоркі

*Зоркі неба поўняцца*
*Тайнай месяца,*
*Месяца свавольнага,*
*І ласкавяць цішыню.*
*Знаем толькі ты і я,*
*Ад чаго ў нас*
*Столькі ненатольнага*
*У начы агню.*
*Зоркі нізка ўспыхваюць,*
*Разгараюцца, уплятаюцца,*
*Нібы кветкі руж,*
*У тваю касу.*
*А ночка не спыняецца,*
*А неба не канчаецца,*
*Сыплецца і срэбрыцца*
*У звонкую расу.*

* * *

*Ой, гарох, гарох*
*Пры дарозе рос.*
*Пры дарозе рос,*
*Што з Жыгалачак*
*Вядзе ў белы свет,*
*Не спыняецца,*
*Не спыняецца.*
*Не спяшаецца,*
*Доляй бацькавай*
*Аглядаецца,*
*Ласкай матчынай*
*Спачуваецца.*
*Расставаннямі*
*Думкі колюцца,*
*Ў сэрца просіцца*
*Ўся ваколіца.*

## Успаміны

*Дзе лужок,*
*Мая крынічка*
*Пад вярбой*
*Булькоча –*
*Там любоў*
*Мяне чакае,*
*Душа*
*Песні хоча.*
*Успаміны, успаміны,*
*Вы – як сон далёкі.*
*Дзе жыла*
*Мая дзяўчына –*
*Бор шуміць высокі.*

* * *

*Сонца яснае*
*Аглянулася,*
*Быццам з доляю*
*Размінулася.*
*Не гукаючы,*
*Не чакаючы,*
*Не спынілася –*
*Закацілася!*
*Ой, мая вясна*
*Не расквеціцца,*
*Доля сонейкам*
*Не рассвеціцца!*

## Мая мова

*З тых сцяжынак,*
*Што вякі*
*Узвышаюць,*
*З тых слязінак,*
*Што з душы*
*Выцякаюць.*
*Яна –*
*Як птушачка*
*Крылатая,*
*Яна – падмурак*
*Роднай хаты.*
*Яна васількавая,*
*Як абрус.*
*Яна мужная,*
*Як беларус.*
*Яна – і гонар,*
*Яна – і слава,*
*Яна – і Колас,*
*І Купала,*
*Яна –*
*Сама Дзяржава,*
*Дзе праменіць*
*Сонцам сцяг.*
*Яна і сумленне,*
*І жыццё,*
*Яна – як дзіця,*
*Як жытнёвы колас спелы,*
*Яна –*
*Як свет*
*Чорна-белы,*
*Яна – і неба, і зямля,*
*І ты, і я.*





Малюнак У. ЛУКШЫ

**ВЫДАННІ**




Кніга «ТРАГЕДИИ» Георгія МАРЧУКА складаецца з дзвюх п'ес: «Менелай, Елена и Парис» і «Орест и Кассандра», – якія прысвечаны даўнім часам Старажытнай Грэцыі ў перыяд Траянскай вайны. Аўтар па-свойму арыгінальна распавядае пра вайну і каханне старажытных грэкаў.




Уладзімір АРЛОЎ лічыць, што гісторыя – гэта ўваскрашэнне. Сапраўды, уваскрашаючы падзеі мінулага, аднаўляючы гістарычную памяць, мы, беларусы, і самі ўваскрасаем як еўрапейскі народ. У кнігу празаіка "КАХАНАК ЯЕ ВЯЛІКАСЦІ" ўвайшлі ўжо вядомыя і новыя апавяданні, дзеянне якіх разгортваецца ў розныя эпохі. На старонках зборніка побач з гістарычнымі асобамі чытач сустрэне і тых, чые імёны не трапілі ў энцыклапедыі – напрыклад, беларускую гетэру Дамініку або полацкага шляхціца, што правёў ноч з расійскай імператрыцай і застаўся пераможцам у іх своеасаблівай дуэлі...




Уладзімір ЛІПСКІ прапануе чытачам новую кнігу "БАЦЬКА. ПІСЬМЫ СЫНА". Аўтар верны сваёй тэме. Вядомымі і прызнанымі сталі яго кнігі "Я. Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод", "Мама. Малітва сына", "Бацькі і дзеці. Дзённікі". Новы твор – гэта своеасаблівая споведзь сына перад бацькам, асэнсаванне ролі бацькі ў сям'і, яго ўплыву на выхаванне ў дзяцей высокага пачуцця Бацькаўшчыны. Пісьменнік пераканаўча даводзіць чытачам простую і мудрую ісціну: "Мы – сыны сваіх Бацькоў. Наша Бацькаўшчына – мілая Беларусь!"

# Замкнёнасць. Кола.

## Ілюзія

**Уйдя из точки А,**
**здесь поезд на равнине,**
**стремится в точку Б,**
**которой нет в помине...**
***І. Бродскі ,“Пятыя ўгодкі”***

Прывітанне, любая мая незнаёмая дзяўчынка! Незнаёмая, бо не ведаю твайго імя. Любая, таму што...

— Пішу табе ў электрычцы... Даруй, што почырк даволі вычваральны — рука гойдаецца ў такт перастуку колаў... Вырашыў напісаць, нягледзячы на тое, што ты, верагодна, сярдуеш. Хаця хто цябе ведае? Можа, і не... Ведаеш, я ніколі не хацеў бы высвятляць з табою адносін. Не, не таму, што не жадаю гэтага рабіць. Проста з-за таго, што тваю ўпартасць немагчыма пераадолець. Прынамсі, мужчынам...

Сапраўды, толькі з-за мяне спазніліся мы на электрычку ў той дзень. Ды і зайцам ехаць ажно да Брэста— гэта не вельмі добрая ідэя... Думаю пра цябе і адчуваю ўсю бессэнсоўнасць майго ліста. Бо не ведаю твайго адраса. Наўрад ці жывеш зараз ты ў тым самым студэнцкім інтэрнаце праз прамінулыя дзевяць год... Але хто ведае, на ўсялякі выпадак напішу на твой стары адрас, выйду на станцыі Баранавічы-Палескія і адпраўлю гэты ліст.

Еду з Брэста, як ты і здагадалася. Але, я ўпэўнены, што цябе не высадзілі кантралёры ў той дзень... Не высадзілі проста за твае вочкі... бліскучыя і чароўныя. Даруй, што не разгледзеў іх колеру...

Ведаеш, я зразумеў, што час — гэта вельмі адносная катэгорыя. Ён нібыта існуе, але іншым разам — ізноў іншым разам, дарэчы— ён можа быць значна запаволеным ці паскораным. Гэтыя дзевяць гадоў насамрэч праляцелі як імгненне. Бачу цябе, нібыта ўчора, але ты страціла сваю матэрыяльнасць, прынамсі ў маёй свядомасці.

Ты спазнілася ў свой інтэрнат у той дзень! Я ведаю чамусьці, што, па-першае,— гэта так, а па-другое, ты гэтага зараз не помніш. Таму што гэта дробязь — прыйсці пасля 24.00, пастукаць у дзверы, патрапіць на раззлаваную вахцёрку... Гэта дробязь — соўгацца па начным горадзе да шостай раніцы.

Даруй, не магу пісаць, святло згасла ў электрацыі.

Не мог я проста так з табою развітацца. Але ўсё зрабілася надта цёмным: мае пачуцці, думкі, ды і ўражанні... Усё. І неяк адначасова... Таму, прашу цябе, напішы мне хаця б пару радочкаў, альбо патэлефануй... Ды й што гаварыць... Як можна выкрасліць цябе са свайго жыцця, нават калі бачыў толькі аднойчы. Мне здаецца, сустрэўшы цябе ў натоўпе, адразу пазнаеш. Бо ў свядомасці заўсёды будзеш такой жа...

* * *

Цік-цік-цік-цік... Стрэлкі гадзінніка, што каля вахцёра, на першым паверсе, акурат насупраць вялікіх люстэркаў у вестыбюлі, набліжаліся да 23 па мясцовым часе.

Пі дайшоў да паўднёва-ўсходняга кутка гэтага будынка, які злаваў яго да ламаты касцей. “Трэба ж такое, — падумаў Пі, — цэлымі днямі таўчэшся тут, а ніякага выніку. У гэтым безумоўна вінаватая Радыюс, дзяўчынка, якая можа зменьвацца проста ў цябе на вачах! І чаму гэта ёй так шанцуе?!”

Пі ведаў сваю безвыходнасць. Ён адчуваў, што з’яўляецца пастаяннай лічбай. Лічбай, якую нават дакладна вызначыць немагчыма. Калісьці, яшчэ ў дзяцінстве, ён запомніў дванаццаць першых яго складаючых: 3,14159265358...

Пі без дазволу ўламіўся ў апошні кабінет.

— Прывітанне, любая мая Радыюс! Гэта я, твой Пі! Цудоўна выглядаеш!..

Яна не адказала... Яшчэ некалькі крокаў па бетоне (ці асфальце?)... Мост — ён цягнуўся, здаецца, цэлую вечнасць... Адзінаццаць хвілін на адзінаццатую...

Пі ў гэты час ледзь не паслізнуўся на лесвіцы, пераскокваючы праз прыступкі, па якіх збягаў з маста на перон.

— Ну вось, паспеў, — радасна, амаль сацрэалістычна выгукнуў Пі, ледзь-ледзь паспеўшы ўскочыць у цягнік.

Са звыклай бесцырымоннасцю ён нагою штурхануў напаўадчыненыя дзверы. У вагоне было мала людзей і шмат вольных месцаў. Позірк Пі, доўга не блукаючы, спыніўся на найбліжэйшым да яго сядзенні... “Мне ж ехаць толькі адзін прыпынак, — падумаў Пі, — з Баранавіч-Цэнтральных на Баранавічы-Палескія...

...Незнаёмы насупраць першы працягнуў руку:

— Два, будзем знаёмы.



Адам ШОСТАК

— Прабачце, два — гэта толькі лічба, як яна можа быць імем? — здзівіўся Пі.

— У вас, шаноўны Пі, таксама лічбавае імя, але пакінем яго без удакладненняў, — Два вымавіў апошняе слова ледзь не па складах, — бянтэжыць навакольнае асяроддзе, гэта становіцца прычынаю палітычнай неўраўнаважанасці і нават экалагічных недарэчнасцяў.

— Чакайце, — падскокнуў Пі, — я недзе гэта ўжо чуў, але дзе? Няўжо ізноў дэжавю?

— Дэжавю, ізноў жа, — працадзіў праз зубы Два, — гэта колавая катэгорыя, яна ўзнікае тады, калі ваша свядомасць закручваецца вакол Радыюса. Тут не абысціся, безумоўна, без мяне, таму што менавіта 2ПR дае лічбавы паказальнік даўжыні гэтага ж абароту. А бачыліся мы напэўна ўчора, у гэты ж час, на скрыжаванні Пятай avenue і Трансфарматарнага завулка. Ля гасцініцы. Направа.

— Так, так, узгадаў, — крыкнуў Пі і адразу ж адчуў недарэчнасць сваёй рэплікі, бо ўсе пасажыры чамусьці ў гэты момант паглядзелі на яго. — Чуеце, прамовіў ён насцярожана, — мне падаецца, недзе там, зверху...

— А вы не заўважылі, — перабіў яго Два, — што ў гэтым вагоне знаходзіцца толькі адна “палова чалавецтва”?

— Так. Сапраўды, жанчын тут няма, — адразу ж адрэагаваў Пі, — дзіўна!

— Зараз будуць... — паабяцаў Два.

Адразу ж пасля яго слоў з падлогі пачалі з’яўляцца валасы. Валасы бландзінкі, якія нечым нагадалі Пі каласы спеючага жыта... Але нечакана пайшоў снег, з-за чаго Пі вымушаны быў нацягнуць капялюш. Холад пранізаў усё яго цела. Два ўсміхнуўся і спытаў:

— Памятаеце, спадар Пі, у той зімовы вечар вы сустрэлі яе? Дзяўчыну Раўнанне.

“Гэта ж яе валасы” — здрыгануўся Пі, зірнуўшы на падлогу.

— А вось і яна сама, — паспешліва дадаў Два.

Сапраўды, з таго моманту, як Пі апошні (і першы) раз яе бачыў — а прамінула ўжо дзевяць год — яна змянілася да непазнавальнасці. Абсурд, парадокс, як час можа змяніць чалавека! Цяпер яна была больш падобнай на жывы труп. Выходзячы з цемры, дзяўчына ўвесь час блыталася ва ўласных валасах, якія рассціслаліся па падлозе, сценах, вокнах і ледзь не дасягалі столі. Позіркам Раўнанне сквапна ўпівалася ў Пі, ад чаго ён адчуў нязвыклы цемянны боль...

Грук колаў нечым нагадваў ход таго гадзінніка, што мясціўся ў вестыбюлі...

— Чакайце, шаноўны Два, — пачаў Пі .— Гэта ж прыгарадны цягнік? Чаму ён дагэтуль не спыніўся?

— Ён коціцца без прыпынкаў, — неяк дзіўна прамармытаў Два.

— Але, прабачце, куды?

— Адкажу вам пытаннем: куды можна ехаць без прыпынкаў?

“Гэта, напэўна, сон”... — прамармытаў Пі сам сабе.

— Цалкам верагодна! Але, усё роўна, гэта — рэчаіснасць. — Засмяяўся Два. ...Іншым разам час немагчыма спыніць...

Два нешта гаварыў, але Пі яго ўжо больш не чуў. Ён падняўся з месца.

— Куды вы?

— Калі ён не спыняецца, то я сам яго спыню...

— Паспрабуйце...

..."І чаму ў электрычках заўсёды прымацоўваюць ручку стоп-крана дроцікам?" — падумаў Пі, і, пасля нядоўгай паўзы, ледзь не страціў прытомнасць: цягнік набіраў хуткасць...

— Даруйце, час падціскае, да сустрэчы, — прамовіў Два.

Цягнік пад’язджаў... з таго ж боку, адкуль і ад’ехаў...

— Прабачце, — здзіўлена ўсклікнуў Пі.—Я прыязджаю на тую станцыю — Баранавічы-Цэнтральныя — адкуль з’ехаў. Вы не лічыце гэта дзіўным?



— Хіба гэта дзіва? Два працягнуў руку Пі. Вам тут сыходзіць. Мы ехалі па коле, якое замкнулася — 2ПR роўнае...

— А вы? Вы хіба не сыходзіце? А як жа...

— Я — не, — Два ўсміхнуўся. — Вы мелі рацыю, калі сказалі, што ўвесь свет — вялікая вёска...

Дзверы адчыніліся.

— Радыюс! Няўжо?! Гэта ты?!

Пі узбег на мост удвая хутчэй, чым збягаў з яго. Радыюс стаяла наверсе.

— Слухай, Радыюс! Ты не сышла?! Чаму?!

— А чаму ты не паехаў?—адказала яна пытаннем.

— Ты ж мяне чакала, напэўна, некалькі сутак! Няўжо я нікуды не ад’язджаў?!

— А ты, спадар Пі, сапраўдны жартаўнік!

Ён зірнуў на гадзіннік. Дзіўна, але цыферблат паказваў 22:11! Нібыта час доўгай дарогі застаўся на месцы...

— Так, сапраўды, дзівосы заўсёды неверагодна заканчваюцца... А праўда ж, — дадаў задумліва Пі, — у імгненні — вечнасць.

...Маўчанне—знак згоды...

* * *

Цік-цік-цік... Час бяжыць... Прывітанне, любая мая незнаёмая дзяўчынка! Незнаёмая, бо не ведаю твайго імя. Любая — таму што проста не магу забыцца пра цябе. Здаецца,бачу і чую цябе дагэтуль нягледзячы на тое, што гэта ўсё было вельмі даўно. З другога боку паглядзеўшы — толькі нейкіх дзевяць год—кропля ў вечнасці!

Ведаеш, я ўзгадаў колер тваіх вачэй. Яны карыя, нібы ўвасабленне цэлага Сусвету. Так-так, яны цёмныя, нібы тая ноч...

Зрэшты, ведаеш, мы з табою абавязкова сустрэнемся, таму што кола павінна замкнуцца. Абавязкова. Няхай я буду бегаць, нібыта тая вавёрка ў ім, але цябе знайду. Абяцаю. А потым проста зазірну ў твае цёмныя вочы, бо мне ўжо абрыдла глядзець на белы снег...

# Арт-пацеркі

У Мінску завяршыўся І Міжнародны конкурс вакалістаў імя Ларысы Александроўскай. Журы, якое ўзначальвала народная артыстка СССР прафесар Беларускай акадэміі музыкі Тамара Ніжнікава, ацэньвала жаночыя і мужчынскія галасы паасобку. У выніку лаўрэатамі першай прэміі названы маладая беларуская спявачка Таццяна Гаўрылава, прадстаўніца Украіны Аксана Дзікая і расійскі вакаліст Пётр Талсценка. Другая прэмія ў Іллі Сільчукова (Беларусь). Нашы вакалісты Наталля Кулагіна, Дзмітрый Трафімук і Юрый Гарадзецкі, а таксама Лі Лін з Кітая атрымалі трэція прэміі. Правядзенню конкурсу паспрыяў Спецыяльны фонд Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі.

18 снежня ў праграме лекторыя выхаднога дня, што зладкаваны Нацыянальным мастацкім музеем РБ, — сустрэча з мастацтвам Фландрыі: размова будзе засяроджана на творчасці П.Рубенса, Я.Ёрданса, А. Ван Дэйка. Назаўтра, 19-га, — лекцыя "Славянскія міфы", а таксама, працягам цыкла "Выяўленчае мастацтва Беларусі", — "Скульптурная пластыка ў прасторы храма".



У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі прайшла выстаўка жывапісу М.Басава, чые работы, у тым ліку й графічныя, экспанаваліся ўлетку ў М-Галерэі Інстытута Гётэ ў Мінску. У сям'і, дзе гадаваўся гэты самабытны мастак, жывапіс абагаўлялі. Яго бацька, знаны майстра І.Басаў, непадпарадкаваны афіцыйнаму сацрэалізму авангардыст свайго часу, выхаваў у сыне самастойнасць творчага мыслення і глыбокую павагу да традыцый продкаў. Кола тэм і вобразаў М.Басава — біблейскія сюжэты, настраёвыя краявіды, чалавечыя пачуцці, пэўны стан душы. Як адзначае, прынамсі, мастацтвазнаўца А.Шамрук, у яго палотнах — "ціхае маленне, цярпенне, зварот да Бога і пагружэнне ў сябе... Прыгажосць і неўтаймаваная энергія фарбы — мовы жывапісу".

Гран-пры Міністэрства культуры Славакіі на IV Міжнароднай экслібрыс-трыенале "Брацiслава-2004" атрымала мастак-графік з Беларусі Ганна Ціханава. Так адзначана серыя яе экслібрысаў, якая складаецца з чатырох работ.

**С.ВЕТКА**

*Фота забяспечана К. Дробавым і аўтарам*

***Трэці Рэспубліканскі фестываль "Тэатральныя скрыжаванні" ўвайшоў у гісторыю нашай нацыянальнай культуры не толькі як свята аматарскага сцэнічнага мастацтва. У атмасферы ўсялякага свята, добра пашукаўшы, знойдзеш зачэпку для развагі і крытычнага настрою. Вось і тут: фэст працягваўся чатыры дні ў гасціннай атмасферы Маладзечна, сабраў лепшыя спектаклі самадзейнай сцэны і нават вызначыў — з дапамогай журы — самыя адметныя з іх, але адбылася і дзелавая, не без палемікі, размова. Яе наладзілі арганізатары і ўдзельнікі творчай лабараторыі, якія, падсумоўваючы вынікі агляду, абмяркоўвалі стан, тэндэнцыі ды перспектывы аматарскага тэатральнага мастацтва ў краіне. Тая неабыякавая размова за "круглым сталом" выклікала ўвагу карэспандэнта "ЛіМа" і адлюстравалася ў сённяшняй публікацыі.***



# Скрыжаванні творчасці

**Тадэвуш СТРУЖЭЦКІ, начальнік Упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры РБ:**

— Аматарскі тэатр — гэта той від народнага мастацтва, які вымагае значнага часу, сур'ёзнай падрыхтоўкі ўдзельнікаў, грунтоўнай матэрыяльна-тэхнічнай базы ды ўвагі з боку ўладаў і грамадства. Яму варта надаваць асаблівае значэнне, і вось чаму. 50, 70, 100 гадоў таму прафесійных тэатраў на абсягу Беларусі было больш, як маем сёння: па іх цяперашній колькасці мы не дайшлі да передваеннага ўзроўню. У гэтых умовах павінна ўзрасці роля тэатраў аматарскіх, бо ў бліжэйшы час сетка такіх прафесійных дзяржаўных калектываў пашырацца не будзе. Тым болей, што і скарацілася, абмежавалася (у асноўным з-за недахопу сродкаў) гастрольная дзейнасць і толькі адзінкі з прафесійных тэатраў могуць выязджаць з гастролямі па краіне. Мала арганізуецца і калектыўных паездак у тэатр для наведнікаў з глыбінкі.

Якою ўяўляецца ідэальная сітуацыя? Тэатр у райцэнтры павінен быць культурна-эстэтычным асяродкам выхавання жыхароў, мясцовае кіраўніцтва павінна разумець яго патрэбы і падтрымліваць. Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на тыя самадзейныя тэатры, якія маюць значныя творчыя і прафесійныя патэнцыял, але не маюць адпаведных умоў для працы і развіцця.

Радуе, што ёсць у гэтым жанры калектывы, гісторыя якіх налічвае ўжо і 40, і 70, і нават 80 гадоў, што з'яўляюцца і новыя. Высокі творчы ўзровень артыстаў-аматараў дае падставы для стварэння і новых прафесійных драматычных тэатраў на базе лепшых народных: з'явіліся яны ў Мазыры, Слоніме, Маладзечне. Магчыма, у хуткім часе як філіял славутых коласаўцаў пачне працаваць трупа ў Полацку, муніцыпальным стане тэатр у Пінску.

У тым, каб поруч з гарадскімі сімфанічнымі і духавымі аркестрамі існавалі і тэатры, павінна быць зацікаўленасць кіраўніцтва, ды многае залежыць і ад актыўнасці рэжысёраў народных тэатраў: смялей уваходзьце ў кабінеты мясцовых чыноўнікаў, даводзьце свой пункт погляду, вучыцеся пераконваць, стаўце задачу і дабівайцеся яе вырашэння! Скарыстоўвайце ўсе магчымыя формы матэрыяльнай падтрымкі, у тым ліку гранты на развіццё творчай дзейнасці, дзяржаўныя стыпендыі на рэалізацыю індывідуальных творчых праектаў (пакуль нават не паступаюць заяўкі ад рэжысёраў, у той час як за кошт менавіта грантаў у некаторых раёнах паспяхова вырашылі праблемы, напрыклад, з набыццём гукаўзмацняльнай апаратуры). У сваю чаргу Міністэрству культуры будзе лягчэй лабіраваць інтарэсы аматарскага калектыву, калі кіраўнік гэтага калектыву звернецца не з абстрактнай просьбай "дапамагчы матэрыяльна", а з канкрэтным, дакладна сфармуляваным праектам.

**Арсень ЛАБОВІЧ, кандыдат мастацтвазнаўства:**

— Гэты фестываль у параўнанні з мінулымі паказаў аб'яднанне розных рэжысёрскіх падыходаў, манер, адлюстраваў працэс узаемасувязі досведу розных творчых пакаленняў. На папярэднім фестывалі гаварылі пра недахоп п'ес для аматарскага тэатра, адчувальны пасюль. Сёлета такой праблемы няма: "Тэатральныя скрыжаванні-2004" прадставілі і сусветную класіку, і арыгінальную нацыянальную драматургію, у тым ліку маладых аўтараў, і пошук рэжысёра, здатнага стварыць спектакль, не маючы дастатковай літаратурнай базы, спалучыўшы драматычнае, пластычнае, харэаграфічнае, моўнае мастацтвы. У гэтым сінтэзе ўсіх жанраў сцэнічнага мастацтва — рух наперад, будучыня. І яшчэ адзін штрых — пачуццё мастацкай адказнасці: рэжысёр выводзіць спектакль на сцэну, каб не толькі выявіць сябе, але і паказаць калектыў і праз артыстаў сказаць нешта значнае, тое, што можна назваць грамадзянскай, ідэйнай пазіцыяй.

**Уладзімір МІШЧАНЧУК, дэкан тэатральнага факультэта Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў:**

— Важна, што арганізатары запрасілі працаваць у журы прадстаўнікоў навучальных устаноў мастацтва. Тут, на фестывалі, мы знаходзім будучых зорак для прафесійнага тэатра. Менавіта на "Тэатральных скрыжаваннях", што ладзіліся ў Слуцку, я знайшоў 5 чалавек, здатных асвоіць акцёрскую прафесію. І яны ўжо навучаюцца ў нашай акадэміі. І сёлета я таксама заззначыў некаторыя кандыдатуры, якія можна будзе рэкамендаваць для паступлення да нас.

**Данута ВАЙГАЎСКАЙТЭ, заг.кафедры Клайпедскага універсітэта, прэзідэнт Асацыяцыі аматарскіх тэатраў Паўночнай Еўропы:**

— Мы ў Літве, вядома ж, маем інфармацыю пра сённяшнюю Беларусь. Але не ўсе фарбы ведаем. Якія вы прыгожыя і добрыя людзі, як у вас прымаюць гасцей, якія былі паказаны цікавыя спектаклі, хаця і здатныя выклікаць дыскусіі! А галоўнае — я змагла пачуць і паслухаць беларускую гаворку, бо ў нас уяўленне, што людзі ў Беларусі па-беларуску ўжо не гавораць, толькі па-руску. Цяпер з гордасцю буду казаць, што ёсць на Беларусі беларускамоўныя, ёсць людзі, якія размаўляюць шчыра і прыгожа. Самае вялікае багацце народа — гэта мова, і я жадаю вам гэтае багацце захаваць, берагчы яго і развіваць. Бо без гэтага няма нацыі. Я ўжо 2 гады як прэзідэнт Асацыяцыі аматарскіх тэатраў паўночнаеўрапейскага рэгіёна і хачу далучыць Беларусь да міжнародных творчых стасункаў гэтага ўзроўню, бо яна мае што паказаць.

У Літве каля 3 мільёнаў жыхароў і каля 2 тысяч аматарскіх тэатраў, у якіх занята творчасцю каля 50 тысяч чалавек, у тым ліку і дзеці. Штогод у нас адбываюцца рэгіянальныя агляды, 10-15 спектакляў журы вылучае на рэспубліканскі фінальны агляд. Ён праходзіць выключна як свята: конкурсы мы адмянілі, бо няма ніякіх прафесійных крытэрыяў у дачыненні да аматарскай творчасці.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, заг. Цэнтра драматургіі Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры:**

— Крыўдна, што мала драматургаў пабачыла тут свае творы. Калі тэатр аматарскі будзе ў гэтым браць прыклад з прафесійнага, гэта — тупік. Няма разнакведця ў прафесійных тэатрах, якія ставяцца да драматурга не як да сатворцы, а як да цягніка, які вывезе. Без матэрыялу, без асновы, дзе ўлічваецца нацыянальная ментальнасць, і глядач, і артысты — тэатр у цэлым не мае глебы, ён падвешаны ў паветры.

**Ірына МАРКАВА, рэжысёр дзіцячага тэатра "Ронд-студыя" Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі "Эўрыка" Фрунзенскага раёна Мінска:**

— 25 гадоў я гавару адно і тое ж: у Рэспубліцы Беларусь не было за ўсю гісторыю існавання нашай дзяржавы міжнароднага фестывалю дзіцячай творчасці (а ў суседняй Літве 30 міжнародных тэатральных фестываляў адбываецца на працягу года!). Нам, кіраўнікам і дзіцячым тэатральным калектывам, няма дзе паказваць сваю творчасць. Была беспаспяховая барацьба за тое, каб у Мінску зрабілі агульную пляцоўку для паказу работ усіх такіх тэатраў. Свае пастаноўкі, на жаль, мы маглі вывозіць толькі за мяжу, а іграць у Беларусі — не можам! Для гэтага трэба заплаціць падаткі і купіць пасведчанне, якое дазваляла б нам, адзінаму ў краіне прыватнаму дзіцячаму тэатру, паказаць свае 6-8 спектакляў на мінскіх сцэнах. Нам такім чынам перакрылі кісларод. Нам не дапамагаюць. Толькі сябры прымаюць, забяспечваюць пляцоўкі для выступлення ў школах ці гімназіях. Праблемы адасобленых адно ад аднаго, але пакуль яшчэ жывых дзіцячых тэатраў на Беларусі не вырашаюцца. Хаця б "зверху" пакіравалі, каб далі ў Мінску пляцоўку для такіх калектываў...

**Марыя ЗАХАРЭВІЧ, народная артыстка РБ, старшыня журы:**

— Я лічу, што 1-2 лепшыя спектаклі з такіх фестываляў павінны быць паказаны на лепшых сцэнах краіны, у Мінску. Гэта ж сапраўднае адкрыццё!

Мастацтва такога кшталту няма ў сталічных тэатрах, трэба, каб яго пабачылі нашы прафесійныя артысты.

•

*Такі атрымаўся эскіз гаворкі, што адбылася ў творчай лабараторыі фестывалю "Тэатральныя скрыжаванні". Між іншым, яго арыгінальны фінал выклікаў сапраўднае захапленне. Цырымоніі ўзнагароджання адзначаных калектываў і дзеячаў сцэны папярэднічаў своеадметны дайджэст фестывалю: у Вялікай зале раскошнага гарадскога Палаца культуры былі паказаны ці не самыя відовішчныя ўрыўкі з пераважнай большасці спектакляў, што ішлі ў тыя дні на некалькіх сцэнічных пляцоўках Маладзечна. Да такога свята — яшчэ б і публікі паболей! Але гэта ўжо іншая праблема...*

**С.БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота Ю. ПЛЮШЧАВА*

# Паўгадзіны страху

Страшна зрабілася яшчэ ў чарзе па квіток, калі над маёй галавой навісла пагроза атрымаць локцем ад нахабных падлеткаў. Юныя кінаманы з мясцовага ПТВ, якіх не інакш як пад прымусам сабралі на прагляд відэафільма “Страх”рэжысёра Алены Трафіменкі, занялі амаль усе месцы ў зале кінатэатра “Камсамолец”. Патушылі святло, пачаўся сеанс, а разам з ім — недарэчныя каментары і дэбільны рогат. Як прызналася потым сама пастаноўшчык, такой аўдыторыі яна яшчэ не бачыла. Барані Божа.



Але як там ні было, у барацьбе “цёмнага” гледача і карціны перамагла апошняя. Бо ў рэшце рэшт, карціна прымусіла залу замаўчаць.

Прэм’ера “Страху” ў Музеі беларускага кіно прайшла інакш. З-за вялікай колькасці ахвочых пагдзець фільм давялося зрабіць два сеансы. Падчас кожнага прагляду ўсе месцы былі занятыя, а некаторыя мусілі глядзець стоячы.

Такім чынам, “Страх”. Дагэтуль цяжка ўявіць, як у трыццаць хвілін мажліва змясціць столькі болю, адчаю, жорсткасці адных і бездапаможнасці іншых. Падзеі адбываюцца ў ваенныя часы. Звычайная вёска, звычайныя людзі. Паліцаі пільна вышукваюць партызанаў, бацькі дрыжаць за сваіх дзяцей. Юнак Мікола ўпотай прыходзіць ноччу ў родную хату і на сваю бяду застаецца з сям’ёй да раніцы, пра што даведваюцца нямецкія служкі. Пад пагрозай забойства мужа і дачок маці выдае паліцаям Міколу...

Кульмінацыя з галавой выкрывае рэжысёра-жанчыну. Жанчыну-маці. Проста жанчыну. Сама Алена Трафіменка не асуджае маці: “Трагічнасць не можа быць адмоўная ці станоўчая. Жанчына проста стамілася — ад істэрыкі, ад страху. Надышоў момант невыноснай стомленасці, калі ўжо проста немагчыма супраціўляцца”.

Здымаўся фільм у вёсцы Ратынцы, што пад Ракавам. Ад простасці і гасціннасці мясцовых жыхароў у здымачнай групы засталіся толькі цёплыя ўспаміны. З першых дзён працы сяброўская атмасфера ўсталявалася і сярод акцёраў. Напачатку ўжо вядомыя спрактыкаваныя артысты (Пётр Юрчанкоў-малодшы, Алёна Сідарава, Святлана Кажамякіна і інш.) сумняваліся, ці атрымаецца ансамбль, ці будзе добрая каманда. Бо акрамя прафесіяналаў, у фільме заняты дэбютанты: студэнты Беларускага міжнароднага экалагічнага інстытута імя Сахарава і зусім маленькія хлопчыкі і дзяўчынкі. Але пачаткоўцы справай даказалі сваім старэйшым калегам, што здольныя на многае. Асабліва яскрава гэта адчуваецца ў сцэне, дзе маленькае дзяўчо (Маша Волкава) плача па сваім любімым галубочку, якога забралі паліцаі. Не стрымала Марыйка слёзы і падчас прэм’еры фільма ў музеі кіно. Мабыць, разумела, як нялёгка ёй, такой маленькай, данесціць да гледача той вялікі страх.

Не можа не ўсхваляваць ігра акцёркі-дэбютанткі Ніны Ліпскай у сцэне, калі хворую Надзю спрабуе згвалтаваць нямецкі паслугач. Атрымаўся кінадэбют і ў Дзяніса Зосіка, што сыграў Міколу-партызана.

Ёсць такая традыцыя: перад працай над фільмам здымачная група разбівае талерку, якую пасля завяршэння работы ўсе разам мусяць склеіць. Але часцей за ўсё сабраць разбіты посуд не атрымліваецца: хтосьці забудзецца на рытуал, хтосьці паспее з калегамі пасварыцца. У выпадку са здымачнай камандай “Страху” склеіць талерку ўдалося. “Дый наогул, каманда склалася, — прызнаецца Алена Трафіменка. — Пабач са мной працавалі людзі, якія шчыра любяць кіно і сваю працу, а гэта і ёсць зарука поспеху”.

**Кацярына МАРГОЛЬ**

***На здымку: кінарэжысёр А. Трафіменка.***

***Фота А. Прупаса***



**Касіян Марыя СПІРЫДОН**

***Нарадзіўся 9 красавіка 1950 года. Дэбютаваў у 1970 годзе. Яго творы шматразова выдаваліся за межамі Румыніі. Лаўрэат нацыянальных і замежных прэмій. З’яўляецца арганізатарам шэрагу літаратурных перыядычных выданняў.***

## Трагічная пастэль

*на мяжы смерці*
*ружы па горла ў зямлю закапаныя*
*нібы выклік зіме*
*расцвілі*

*над імі жанчына бялізну*
*развешвае мокрую*
*праменіцца ў вочы святлынь*
*а зорка на небе дарогу вяшчуе халодную*

## Не існуе

*няма больш хлуслівай істоты*
*чым існы паэт*
*калі ён гаворыць (кахаю)*
*не вер*
*бо ўжо ў сэрцы ягоным*
*складаецца іншы верш*
*больш важны (будзь пэўная ў гэтым)*
*чым тыя ўрачыстыя словы*
*што з языка зляцелі*
*(даволі дзіўная праўда*
*для вытанчанага паэта*
*які хоць крыху сябе паважае)*
*не вер ніколі паэту*
*нельга верыць таму хто не любіць*
*нават самога сябе*
*ён пэўнасці і надзеі*
*на сны свае не ўскладае*
*ён іх руйнуе ілжэ ім*
*і ў вершы іх заганяе*
*каб жыць спакайней было*
*ён быць жадае і часта*
*здараецца што бывае*
*тым хто іншых ад спячкі будзіць*
*тым хто верыць яму гатовы*
*калі ён крычыць (мне больна*
*мая душа нібы рана)*
*не верце яму (прашу вас)*
*ён хлусіць (папраўдзе душа*
*даўно ўжо яго пакінула)*
*ягонае “я” распалася*
*зліося з травой з каласамі*
*але*
*не забудзьце пры гэтым*
*(хоць не тоіць свайго вар’яцтва)*
*ён усё разумее*
*і хлусіць*

**З румынскай пераклаў Васіль ЗУЁНАК**



# Натхненне — і радасць...

Яшчэ з таго часу, калі мы абое з’яўляліся салістамі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Беларусі і танцавалі на яго сцэне вядучыя партыі, узнікла неадольная патрэба: бачыць і чуць усё новае і адметнае ў сучасным мастацтве. Спектаклі — музычныя і драматычныя, канцэрты, фільмы, выстаўкі... Думкі і пачуцці, зафіксаваныя ў форме мастацкага твора, сілкуюць артыста заўсёды патрэбнымі эмоцыямі, уражаннямі, назіраннямі.

Так было і ў той час, калі разам з беларускім балетам або падчас індывідуальных гастрольных тураў мы траплялі ў Індыю і Італію, у Фінляндыю і Румынію, у Польшчу, Балгарыю, Данію, Швецыю, Нарвегію і яшчэ многія іншыя краіны свету. Так было і пазней, калі ўжо ў якасці педагогаў класічнага танца, рэпетытараў і пастаноўшчыкаў нам давялося працаваць у дзяржаўных і прыватных балетных школах Сірыі, Кітая, Турцы. І мо таму артыста, які мае ў схованках памяці столькі яркага, сапраўды незабыўнага, здзівіць зусім не проста. Тым не менш, сёлетні восенню мы былі прыемна ўражаныя, трапіўшы ў сталічную Залу камернай музыкі на творчы вечар паэтэсы Таццяны Мушынскай “Кахаю...”.

Доўгі час артысты нашага Нацыянальнага тэатра балета ведалі Таццяну ў якасці журналісткі і балетнага крытыка. Пра балет яна заўсёды пісала з веданнем справы, часта наведвала спектаклі, выдала шэраг кніг, прысвечаных нацыянальнай харэаграфіі і яе дзеячам. А ў той вечар у зале панавала ўзнёслая атмасфера свята высокай музыкі, высокай паэзіі, свята бясспрэчнага мастацкага густу. Калі выканаўцы і глядзельная зала існуюць не паасобку, а ўтвараюць непадзельную субстанцыю. Калі яркія эмоцыі і глыбокія, нечаканыя думкі твора знаходзяць імгненны водгук у сэрцах.

Дый публіка была невыпадковая, музычна-тэатральная, у тым ліку і многія вядомыя людзі: Сяргей Картэс, Галіна Гарэлава, Алег Хадоска, Уладзімір Карызна, Юлія Чурко, Вольга Дадзіёмава, Міхась Тычына, Вячаслаў Рагойша...

Агульны настрой “электрызавала” і тая акалічнасць, што больш як палова твораў выконвалася ўпершыню. І радок на праграмцы: “вечар прэм’ер” выглядаў вельмі дарэчы.

Вельмі добра, што тэлеканал “Лад” цікавіцца і беларускай паэзіяй, і беларускай музыкай, фіксуе такія вечарыны.

У двух аддзяленнях канцэрта прагучалі творы пяці кампазітараў, напісаныя на тэксты Т.Мушынскай: Эдуарда Зарыцкага, Дзмітрыя Далгалёва, Віктара Кажухара, Аліны Безенсон, Алены Атрашкевіч. Яны працуюць у зусім розных стылістычных манерах, маюць індывідуальныя почыркі... Але ў кожным з іх твораў — глыбіня разумення жыцця, і чалавека. Тонкасць раскрыцця паэтычнага тэксту. Можа, невыпадкова з відавочным задавальненнем выконваюць такія творы артысткі еўрапейскага ўзроўню: Вольга Сотнікава, Нэлі Душчынская, Галіна Сакольнік, Святлана Старадзетка.

Праграма вечара была пабудавана досыць лагічна і зразумела. Першае аддзяленне — рамансавыя творы, другое — харавыя, дзе неверагодная прыгажосць музыкі, выразнасць драматургічнага развіцця ўразіла харавая паэма “Кахаю...”, якая і дала назву вечарыне. Паэма ў дзевяці частках, напісаная кампазітарам А.Атрашкевіч на словы Т.Мушынскай, прагучала ўпершыню. Адчувалася, што выканаўцы — Дзяржаўны камерны хор Беларусі пад кіраўніцтвам цудоўнага дырыжора Наталлі Міхайлавай, салісты Таццяна Вайтовіч і Сяргей Лазарэвіч — з вялікай творчай асалодай спяваюць гэты тэкст і гэтую музыку.

Рэдка на якім канцэрце бывае такая шчырая рэакцыя глядзельнай залы, такі вадаспад апладысментаў і кветак, які літаральна абрынуўся на артыстаў і галоўную гераіню вечара. Што ж, застаецца толькі чакаць наступнай вечарыны Таццяны і думаць, якія мастацкія адкрыцці новая вечарына нам паабяцае...

**Віктар САРКІСЬЯН,**
**народны артыст Беларусі,**
**прафесар Беларускай акадэміі музыкі;**
**Вольга ЛАПО,**
**балерына, педагог Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа**

***Фота В.Спрынчана***

# Зорка, якая ўпала, каб загарэцца зноў

*Руды кудлаты дворттэр'ер па мянушцы Маня даверліва кінуўся да мяне павітацца. Гаспадыня чацверанагага жэўжыка раскачвалася на арэлях і крыху стрымана ўсміхалася. "Добра выглядаеш", — павіталася Стася са мной. "Дзякуй, ты таксама", — адказала я Стасі.*

З гэтай дзівачкай можна бясконца піць зялёную гарбату з мёдам, абмяркоўваць кастанедаўскія мадэлі Сусвету, размаўляць пра музыку, варажыць на будучыню па вялікім сшытку, куды Стася старанна запісвае ўсялякія незвычайныя прыклады варажбы, знойдзеныя ў часопісах.



"Цікава, чым бы яна занялася, калі б не музыка?", — разважала я, разглядаючы фотаальбом салісткі гурта "Па вачах". Але падчас усёй размовы гэтае пытанне так і не зляцела з маіх вуснаў, бо і без таго зразумела: музыка — Стасіна прызванне. Стасіна жыццё.

У дэбютны альбом "Сонца разліваецца" яна ўклала ўсю сябе разам з пачуццямі, думкамі, марамі, іншымі вымярэннямі.

— Адзін мой сябра, — узгадвае дзяўчына, — слухаючы наконт "Сонца разліваецца": маўляў, ты, Стася, злятала ў нейкую дзіўную вандроўку да іншых планет, а калі вярнулася, адразу ж запісала дыск... Я з ім не магу не пагадзіцца.

Дзяцінства Станіслава правяла ў Стайках, дзе 14-гадовая спявачка назбірала гурт такіх жа, як і сама, апантаных музыкай сяброўках. Першыя "канцэрты" адбываліся за домам, куды былі прынесены ўсе неабходныя музычныя "прыбамбасы".

Калі юная артыстка падрасла, то бацькі адправілі дачку ў вышэйшую навучальную ўстанову, дзе Стася хуценька сымправізіравала нешта на фартэпіяна.

— Памятаю, як ва ўсіх прысутных вочы зрабіліся круглымі ад здзіўлення. Падобную рэакцыю я заўважаю падчас кожнага канцэрта, і мне прыемна бачыць гэта.

У абранай бацькамі ўстанове Стася вучыцца не стала, а пайшла напрасткі ў Інстытут сучасных ведаў, дзе і атрымала вышэйшую адукацыю па спецыяльнасці мастацтва эстрады.

Нараджэнне гурта "Па вачах" ягоная лідэрка называе лёсам. Некалькі гадоў таму сябры дапамаглі Стасі стварыць на лецішчы студыю. Літаральна пасля чацвёртай рэпетыцыі музыканты набраліся смеласці і папрасіліся "на разагрэў" вядомага расійскага гурта "Сплін", які гастраляваў у беларускай сталіцы. Самаўпэўненасць і імпэт маладосці атрымалі сваю ўзнагароду — гурт заўважылі, ацанілі, а дэма-касета адправілася ў Маскву. Як вынік, у 2003 годзе на Real Records з'явіўся доўгачаканая "дзетачка" — "Сонца разліваецца". Тры песні з дэбютнага альбома спрадзюсіраваў Макс Фадзееў, вядомы па праектах Глюкозы, Лінды, "Фабрыкі зорак".

— Песні з Максам мы запісвалі ў Празе, — узгадвае Стася. — Там такія мясціны прыгожыя, нечым на Стайкі падобныя. Я і папрацавала добра, і адпачыла выдатна. Ды наогул, з Фадзеевым працаваць спадабалася. Ён сапраўдны прафесіянал і добра ведае, што трэба музыкантам.

Рэжысёр Зміцер Панцялейка зрабіў для гурта кліп на кампазіцыю $H_2O$. Зараз ідзе падрыхтоўка да другога відэа — на кампазіцыю "Матрошкі", па сцэнарыі да якога патрэбна назбіраць ажно сто (!) дзяўчат.

Назва да гурта прыклеілася неяк самастойна, і не была строга прадумана. Сама Стася звязвае філасофскі падтэкст з Кастанедай.

— У жыцці як? Мы бачым адно, а на самай справе за формай хаваюцца зусім іншыя рэчы і сэнс. "Па вачах" — гэта свет, які нас акаляе, але нашыя фантазіі могуць змяніць ягоныя абрысы. Нават звычайнае дрэва можа выглядаць па-рознаму на здымках розных фатографаў.

Станіслава чытае шмат. "Кнігі развіваюць асабістае ўяўленне і не даюць мне глядзець на рэчы і з'явы, сыходзячы толькі з вынікаў інтэрпрэтацыі розуму...".

Яна любіць, калі вакол усё добра. Раздражняе празмерная бязглуздасць чалавечых учынкаў: "Няўжо дыпламаты не могуць спыніць вайну? Мы ўжо каторы год назіраем за гэтым цыркам і нічога не можам зрабіць. Такая бездапаможнасць мяне раздражняе. Я, як і любая жанчына, жадаю нарадзіць дзяцей і каб яны жылі ў мірны час.

Калі людзі не кінуць рабіць глупствы, прырода вывергне ўсё і ўсіх. Кожны сам сябе асудзіць за асабістае зло...".

Зараз "Па вачах" рыхтуюць новы альбом, многія кампазіцыі з якога прысвечаны прыгожай палове чалавецтва.

— Апошнім часам дзяўчаты сталі больш характарнымі, больш амбіцыёзнымі. Бо жанчыны больш цікавейшыя і мудрэйшыя за мужчын, — тлумачыць Стася такі падыход.

Пацвярджэнне яе словам — кампазіцыя "Дзяўчынка трохтысячных гадоў" — тая, якая "ходзіць на балет, носіць пісталет". Яшчэ адна навінка ад Стасі — трэк "За аблокамі", якую спявачка запісвае ў дуэце з Лёшам з гурта "Стоўкс".

... Са Стасяй можна размаўляць бясконца. Пакуль не скончыцца зялёная гарбата з мёдам. Пакуль хто-небудзь не патурбуе па тэлефоне. Дакладней — Стасю можна бясконца разгадваць. І ніколі не атрымаецца да канца.

— Дарэчы, ведаеш, што азначае маё імя ў перакладзе з грэчаскай мовы? Зорка, якая ўпала, каб загарэцца зноў...

Што ж, можна было б здагадацца...

**Кацярына МАРГОЛЬ**

**Фота забяспечана аўтарам**

# Львоўская мазаіка

## З падарожнага нататніка

***Гэтым летам падарылі сабе паездку ў Львоў. Жончын старэйшы брат працуе там у Інстытуце геалогіі навуковым супрацоўнікам, паабяцаў звазіць у Карпаты.***

• Сакольнікі — прыгарадная вёска. Таксісты прапаноўваюць завезці за 25 грыўняў (каля 10 даляраў), але пад'ехаў пляменнік на ўласнай маршрутцы. Маршрутка тут каштуе 80 капеек. Іх разоў у дзесяць больш, чым у нас, і яны разы ў два таннейшыя за нашыя.

• Першая вылазка — на Высокі замак. Гэта высачэзная гара ў цэнтры горада з рэштаю старажытнага мура на самым версе. Пасярэдзіне глядзельная пляцоўка з узнятым над ёю і над усім горадам нацыянальным прапарам. Горад — як на далоні. Як рознакаляровая мазаіка. І старажытны, ашчацінены шпілямі, з брукаванкай, сярэднявечнымі дамамі, крапаснымі мурамі, храмамі і сучасны — з квадратамі гмахаў.

Высокі замак даў назву шмат якім фірмам, гандлёвым маркам, а таксама газеце, якая распаўсюджваецца па ўсёй Украіне.

• Сфатаграфіраваліся каля велічных помнікаў Адаму Міцкевічу, Тарасу Шаўчэнку, Івану Франко, князю Данілу Галіцкаму, які заснаваў горад і назваў яго ў гонар сына Льва... Самы раскошны дый самы высокі помнік — Міцкевічу. Толькі ўважаюць яго тут палякам. І толькі польская мова гучыць каля мемарыяла. Палякі шчоўкаюць затворамі фотаапаратаў, палякі ганарацца сваім геніем. Нібыта хочуць, каб ліцвін, як ён сам сябе называў, Міцкевіч нарэшце і сам паверыў у тое, што ён паляк.

• Пункты абмену валюты і банкаматы на кожным кроку. Было б што мяняць. Пляменніца Волечка кажа, што ў Львове дзесяць працэнтаў багацеяў і дзевяноста — беднякоў. Сярэдні клас практычна адсутнічае.

• Паўз кожную шэрую мазаіку брукаваных вуліц рознакаляровая мазаіка склепаў. Яны аж стракацяць увачу. Гандлёвыя, з маляўнічымі, яркімі рэкламнымі шыльдамі, з ілюмінацыяй — як у Польшчы. Паўсюль плакаты з заклікам купляць сваё, украінскае.

• З гаспадаром пайшлі на гароды (яны на гары, а каменныя дамы — на схіле) накасіць козам ды трусам зелля. Сваё бульбянішча ён ужо ачысціў, і цяпер ачышчаем чужыя, за што людзі вельмі ўдзячныя. Раздражняе хіба тое, што вышэй усю дарожку перакрывае навютка-зіхоткі мікрааўтобус. Дом, каля якога стаіць аўто, багацейшы за астатнія, з выкладзеным італьянскай пліткаю падворкам і мноствам кветак. Валодзя крыва пасміхаецца, маўляў, колькі ўжо разоў казаў суседу "зверху", каб ставіў машыну бліжэй да паркана, ды як аб сцяну гарохам. Што багацею праблемы бяднейшага. А той бяднейшы — кандыдат навук, выкладае ва універсітэце...

• Косім на гары зелле. Над галовамі нізенька праляпае велізарны пасажырскі лайнер. Тут непадалёку аэрадром. "Я якраз быў во тут, на гэтай гары, калі на аэрадроме падчас святочных паказальных выступленняў проста на людзей упаў самалёт, — крутнуў галавою Валодзя. — Чаго было ўсім перціся туды, калі нябеснае відовішча адусюль бачнае?" Помніцца, мы адразу ж патэлефанавалі яму, калі па тэлевізары ўбачылі кадры катастрофы.

• Валодзя ўжо сорак гадоў жыве ў Львове, але пачувае сябе беларусам, сочыць за падзеямі ў Беларусі, наведвае мерапрыемствы тутэйшага згуртавання беларусаў імя Скарыны, як галодны на хлеб, накідаецца на любое беларускае выданне — газету, часопіс, кнігу. Прывёз яму паўгадавы камплект "ЛіМа", які здаўна выпісваю і знарок прыхоўваю. Валодзя ўручае мне сваю самвыдатаўскую кніжачку-сшытак. Беларуская мова ў ёй з дамешкам украінскай. І настальгія ну проста нясцерпная:

*Добрай раніцы, сіні пралесак,*
*і маё дарагое Палессе,*
*Белы-белы туман на світанку,*
*Бэзу куст, што расце каля ганку.*

*Хмаркі белыя ў небе плывуць,*
*І на сэрца тугу наганяюць,*
*І мяне на Радзіму завуць —*
*А гады, як лісты, ападаюць.*

• У Валодзі ўсе вершы прысвечаны Радзіме, бацькоўскаму кутку, які застаўся на Лунінеччыне, у вёсцы Сасноўка. І чамусьці ніводнага пра тую зямлю, дзе ён жыве вось ужо сорак год.

• У львоўскай абласной газеце "Поступ", куды завітаў з цікаўнасці, з беларускіх пісьменнікаў добра ведаюць толькі Быкава, Караткевіча ды Багдановіча. Перакладзены на ўкраінскую Багдановіч летась з'явіўся ў львоўскіх кнігарнях.

• Карпаты... Дзве гадзіны язды на мікрааўтобусе, і мы ў гарах. Тут яны не надта высокія. Спрэс парослыя елкамі ды іншымі дрэвамі. Па дарозе сюды ў газеце "Высокі замак" знайшоў карэспандэнцыю пра тое, што ў Карпатах развялося як ніколі шмат атрутных гадзюк. На момант выхаду газеты ўжо пацярпелі ад іх укусаў 15 чалавек, сярод якіх пяці- і двухгадовае дзіця. Прычым трагічныя выпадкі здараліся нават на падворках горных вёсачак. Таму дзяцей далёка не адпускаем.

Найцікавей — каля вадаспада. Ён хоць і не высокі — каля пяці метраў, ды стаіць пад магутнымі халоднымі скідамі вады цяжка, нібыта на цябе сыплецца каменне.

А якое тут чыстае паветра! А якое ўражанне ад глыбокіх каменных цясніні! Агромністыя елкі, што не ўтрымаліся на кручы, звісаюць па адвеснай каменнай сцяне ўніз вершалінамі, нібы ялечныя. Некаторыя каранямі зачапіліся за трэшчыну на тым баку цясніны, а вяршыню паклалі на гэты бераг. Атрымалася адмысловая кладка. Але паспрабуй ступі на яе. Паляціш туды, дзе далёка ўнізе скача па каменнях імклівае серабро.

• Калі развітваліся, Валодзя падарыў выраблене з каменю (якняк, геолаг!) яйка. Курыная, дый годзе. Адно што густа-зялёнае і цяжкае. "Гэта серпанцініт, змяіны камень", — сказаў ён.

Яйка з серпанціту. Гучыць. І бліскучыць-бліскучыць.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ**

# «Бывайце здаровы, жадаем вам шчасця...»

*Цяжка не пагадзіцца з тым, што Купалаўскі — самы вядомы сярод усіх нашых тэатраў. І разам з тым ягоная біяграфія мае шмат «белых плям» нават для заўзятых аматараў-тэатралаў...*

## Былі Адэса і... фронт

Дык якія старонкі тэатра застаюцца невядомымі гледачам? — у першую чаргу старонкі ваеннай біяграфіі. Як і вядзецца, новы 1941 год трупа Першага Беларускага дзяржаўнага тэатра (або БДТ-1, так тады называўся Купалаўскі) сустрэла гуртом, седзячы за святочным сталом. Настрой быў узнёслы, бо пра трупу гаварылі ўголас, спектаклі, што ішлі на сцэне БДТ-1, адзначаліся шырокай творчай публікай як перадавыя. Да прыкладу, «Хто смяецца апошнім» Кандрата Крапівы атрымаў самую высокую адзнаку на Першай дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве. А ўсесаюзная газета «Правда» новую пастаноўку — спектакль Э. Самуйлёнка «Пагібель воўка» назвала ў адным з артыкулаў «Выдающимся опытом народно-политической драмы...».


З. Браварская

Не ведаю, ці былі ў той момант святкавання новага года за сяброўскім сталом артысты, што толькі-толькі, услед за шырокім прызнаннем тэатра, прыйшлі сюды — С. Станюта, З. Браварская, Б. Кудраўцаў, В. Дзядзюшка... Але вядома, што трапіць у БДТ-1 марылі не толькі акцёры, але і рэжысёры, і пісьменнікі, і музыканты.

Дзякуючы маладому імпэту таленавітага калектыву былі пастаўлены новыя спектаклі «Фландрыя» і «Машачка», з якімі трупа ў маі 1941 года ад'ехала на гастролі ў сонечную Адэсу. Цёплы, шчыры прыём публікі, кветкі, высокае неба, сонца, мора... і раптам — чорная вестка пра вайну... І тут ва многіх ахапілі горкія думкі: а як там дома, у Мінску? Аднак дабрацца назад было немагчыма — горад ужо бамбілі. Так купалаўцы (назавём іх як нам звыкла, хаця званне Купалаўская яны атрымаюць пазней) не па сваёй волі зрабіліся адэсітамі.

Яны не сядзелі без справы, вучылі новыя і новыя ролі, выходзілі на сцэну. Ведама, што спектаклі перапыняліся хіба што тады, як гучала паветраная трывога. Так уже павялося, што па вечарах на сцэну выходзілі толькі... частка трупы, тады як другая частка дзяжурыла ў санітарных і супрацьпажарных атрадах. Аднак так надарылася, што Адэсу давялося пакінуць: войскі адступалі. Горад на пэўны час апынуўся ў руках нямецкіх захопнікаў.

А што ж наш тэатр з Мінска? Ён у поўным складзе быў эвакуіраваны ў Томск; амаль усе яго супрацоўнікі атрымалі браню.

Там, у Томску, далёка ад баявых падзей, акцёры вучылі не толькі ролі, але і... вучыліся абрабляць соткі, станавіліся заўзятымі агароднікамі. А справа ў тым, што ўсім творцам былі выдзелены агароды, каб выжыць і пракарміцца. І творцы аддзячылі гараджан: яны не толькі ўзнавілі патрыятычныя спектаклі («Партызаны», «Платон Крэчат»), але і пачалі рэпеціраваць новыя пастаноўкі антыфашысцкай накіраванасці (да прыкладу, спектаклі К. Сіманава «Хлопец з нашага горада», А. Карнейчука «Фронт»)...

## Пацеркі — на хлеб

І зноў новымі пастаноўкамі тэатр звярнуў на сябе пільную ўвагу. Аказваецца, «Фронт» быў, як пісала тагачасная крытыка, «наватарскі і смелы спектакль...». А пасля гастролю ў Новасібірску мясцовая прэса напісала: «у глядзельнай зале ў дні вайны яшчэ не бачылі такой гарачай праявы гневу, нянавісці да ворага, як на спектаклях беларускіх артыстаў».

Так ішоў час; абстаноўка на фронце рэзка змянілася, цяпер баі каціліся ў адваротны бок... І зноў купалаўцы апынуліся за святочным сталом, вітаючы новы 1943 год. Па згадках Стэфаніі Станюты, ёй давялося выменяць свае пацеркі на бохан хлеба; яна ж запрасіла калег да сябе ў халодны пакойчык, дзе стаяла ўпрыгожаная ёлка і быў накрыты стол. Назбіралася роўна 13 чалавек, і, каб не надарылася бяды з-за такой лічбы, актрыса выбегла на вуліцу і за некалькі хвілін да новага года прывяла госця. Ім аказаўся эвакуіраваны ў Томск чалавек, які яшчэ не меў пристанішча і хадзіў па вуліцах у разгубленасці...

Хочацца верыць, што гэтыя ж чалавек прысутнічаў і на прэм'еры спектакля ў красавіку 1943 г. Тады купалаўцы паставілі спектакль па п'есе К. Сіманава «Рускія людзі». Цікава, што твор быў надрукаваны ў газеце «Праўда». І, як многія пастаноўкі тых год, і гэтая — выхоўвала нянавісць і гнеў да немцаў... Дарэчы, мне расказвалі сведкі тых далёкіх часоў, што пасля вайны слова «немцы» (а не толькі «фашысты», «гітлераўцы») асацыіравалася з нечым брудным, гідкім, недачалавечым.

## Вандроўкі, выступленні, узнагароды


Л. Ржэцкая і П. Кармунін

Трупа тэатра выступала перад чырвонаармейцамі сіламі дзвюх брыгад; выязджалі на Беларускі і Калінінскі франты, дзе ладзілі сустрэчы, канцэрты, паказвалі спектаклі. Маюцца такія лічбы: у перыяд з 5 чэрвеня па 23 ліпеня 1943 года толькі адна з тэатральных брыгад у часцях Калінінскага фронта паказала 78 канцэртаў і 72 спектаклі! Неверагодная колькасць... І, думаецца мне, самымі жаданымі і чаканымі былі яны не так на перадавой, як у шпіталях, дзе ішлі на папраўку байцы. Падобныя канцэрты давалі магчымасць хоць часова забыцца на баі і раны, на боль...

Як згадвалі самі артысты, больш за ўсё публіцы падабаліся музычныя нумары; байцы часта падхоплівалі не толькі рускія народныя, але і беларускія песні. А ведаеце, якая песня звычайна гучала на развітанне? «Бывайце здаровы, жадаем вам шчасця, а мы ад'язджаем ў суседнія часці...» Во як!

Надоўга засталася ў памяці купалаўцаў вандроўка па Нарымскім краі, дзе правялі 1,5 месяца. Менавіты там яны былі першапраходцамі, бо наязджалі ў такія мясціны, дзе да беларускіх артыстаў творчых калектываў ніколі і не бачылі. Выступалі то ў хатах-чытальнях, то ў хатах мясцовых рыбакоў, а то й проста пад адкрытым небам.

За сваю працу акцёры мелі ўзнагароды; да прыкладу, частка іх атрымала медаль «За доблесную працу ў гады Вялікай Айчыннай вайны», а частка — Стэфанія Станюта, Уладзімір Кудрэвіч, Зінаіда Браварская, Павел Кармунін, Мікалай Яроменка — нават сталі лічыцца ўдзельнікамі вайны, што надалей давала пэўныя льготы.

## І назвалі Купалаўскім

Пасля таго, як усім стала зразумела, што перамога за савецкімі людзьмі, купалаўцы зноў аднавілі рэпертуар, уключыўшы ў яго і камедыі. У маі 1944 года яны весела гралі «Паўлінку» і «Прымакоў» Купалы. Дарэчы, з таго часу яскравая «Паўлінка» стала ледзь не візітовай карткай тэатра, яе паказвалі ва ўсе гады. Так што ні дзіва, што гэты спектакль успрымаецца публікай як сапраўдная народная камедыя.

Аднак далейшыя часы прынеслі не толькі радасць, але і расчараванне, боль. Цягнік, на якім артысты восенню 1944 года вярталіся ў Мінск, трапіў у аварыю, найбольш пацярпеў той вагон, дзе была наша трупа, некалькі акцёраў загінулі. Сярод іх К. Быліч, Б. Аляксеенка, І. Шчасновіч, М. Шашалевіч (жонка скульптара Заіра Азгура), а таксама тэхнічныя супрацоўнікі і члены іх сем'яў. Загінула і маленькая дачушка мастацкага кіраўніка тэатра Глеба Глебава; усяго — 9 чалавек. Як і чаму адбылася аварыя, невядома, чуткі ж хадзілі розныя: і дыверсанты, і нячыстая сіла, і разгільдзяйства...

Канечне, гэты выпадак зменшыў радасць сустрэчы з родным горадам. Аднак жыццё, у тым ліку і творчае, працягвалася. І вось БДТ-1 распачынае ўжо свой першы сезон; мінчукі глядзяць узнёсла-радасную «Паўлінку», і цяплеюць іх сэрцы, і адтагроюцца іх душы...

А ў снежні 1944 года ўрад БССР прысвоіў тэатру імя народнага паэта Беларусі Янкі Купалы; вось тады яны і сталі сапраўднымі купалаўцамі — прадаўжальнікамі народных традыцый.

**Вольга МЕШЧАРАКОВА**

***Фота забяспечана С. БЕРАСЦЕНЬ***


Б. Платонаў і С. Станюта

## • Падтэкст і кантэкст •

*Новая беларуская літаратура ў XIX стагоддзі паўставала з супраціву: вылузвалася яна на свет Божы як заўгодна, але не хутка-лёгка, не моўчкі (напрыклад, Пятро Васючэнка сцвярджае, што не абышлося без "самапарадзіравання, высмейвання, удаванай прасцякаватасці, блазнавання" ("Белліт як казус")). На пачатку XX стагоддзя прыгожая славеснасць адраджалася ў змаганні, у сярэдзіне — набрыньвала палыноваю стратнасцю чарговай вайны... А калі напрыканцы мінулага тысячагоддзя незаўважна наступіла будучыня, у не дужа яркіх промнях яе мусілі мы заўважыць відавочнае: вайна з сюжэта спакваля пераўтварылася ва ўнутраную форму сённяшняй айчыннай славеснасці.*

*Ужо, бадай, больш за дзесяць гадоў "новыя" (колішнія) змагаюцца — са зменлівым імпэтам — са "старымі" (усё тымі ж); "авангардысты" з дзівосным аптымізмам імкнуцца абудзіць да актыўнага жыцця "традыцыяналістаў" — у якасці танізіруючага сродку выкарыстоўваюцца звыклыя — рытуальна-сімвалічныя — "выспяткі"; патэнцыяльным носьбітам "саўковага" менталітэту рэгулярна перападае ад уладальнікаў менталітэту "постсаўковага"; "урбаністы" пафасна пагарджаюць "калгаснікамі", тыя ж сплачваюць ім ціхай нянавісцю; "рэалісты" валтузяцца з "постмадэрністамі" — пакуль твары апанентаў яшчэ нявечыць прыродная інтэлігентасць... Зрэдчас празаікі ўпікнуць паэтаў, якія, у сваю чаргу, помсцяць пераважна рыфмаю; драматургі захоўваюць зацяты нейтралітэт, парушаючы яго толькі дзеля сумеснага выступлення з "прозапаэзіяй" супраць адвечнага ворага сапраўднага мастацтва — крытыкі, якая, зрэшты, паўстае ў родным літкантэксце самаю "нямірнаю" прафесіяй.*

*Магчыма, пералічаным "бітвам" бракуе страснасці дый проста жвавасці — затое на кожнага ваяўніча настроенага "нашага" прыходзіцца прынамсі адзін добра ўзброены "нянаш". Ізноў жа — унутры ці не кожнага творчага "эга", як водзіцца, варагуюць Я, я, я, Я, я і г.д. Сённяшні беларускі пісьменнік, такім чынам, адначасова — і "на фронце", і ў "партызанах". Заўважым — не толькі беларускі, бо сусветнае наша "адзінотніцтва" на нашай вайне паўтараецца адно да аднаго — у нядаўніх ("рэальна-гістарычных") ворагаў.*

# Вайна адзінот



### Норберт ГШТРАЙН.
***Брытанец***

*Раман / Пер. з ням. Г. Сняжынскай. — СПб: "Symposium", 2003. — 416 с.*

Калі перагарадзіць "раку часу" адразу ў некалькіх месцах, мінулае і будучыня вымкнуць з берагоў, памяць перамяшаецца з прароцтвамі — і любое *вяртанне* будзе пераўтварацца ў *знікненне*. Аўстрыйскаму празаіку Н. Гштрайну ўдалося ажыццявіць згаданы "праект" у "літаральнай" (ці, хутчэй, — у "славеснай") форме, што і засведчана ў рамане "Брытанец" (1999), перакладзеным на шаснаццаць моў і адзначаным прэміяй імя Альфрэда Дзёбліна.

"Напачатку быў міф: Хіршфельдэр, пісьменнік-легенда, славуты нелюдзім, крэмень, так пра яго гаварылі, яшчэ з вайны захрас у Англіі, празаік, што шчыраваў над сваім шэдэўрам". Гераіня (імя якой у рамане так і не называецца) спрабуе рэканструяваць біяграфію гэтага *чалавека-міфа* і адшукаць нібыта напісаную ім аўтабіяграфічную кнігу, дзеля чаго сустракаецца з трыма ягонымі жонкамі і адной каханкай, "вандруе" з Лондана на востраў Мэн (дзе з пачатку другой сусветнай вайны размяшчаўся фільтрацыйны лагер), з паўночнай Атлантыкі — у Аўстрыю, прычым перамяшчэнні яе адбываюцца як у рэжыме "рэальнага", так і "гісторыка-міфалагічнага" часу (з 1990-х — у 1940 год).

Хранатоп твора ўскладнены яшчэ і тым, што росшукі гераіні чаргуюцца з "аповедамі" ўваскрэшаных аўтарам персанажаў-ценяў, што паўстаюць "сааўтарамі" абсалютна іншага жыцця зусім другога "Хіршфельдэра": у "паралельнай гісторыі", расказанай ад другой асобы, Бледны, Мечаны, Новенькі і "ты", палоннікі лагера, гуляеце ў карты — на лёс; падманваеце адзін аднаго, спавядаючыся; задыхаецеся ад безвыходнасці ды адчаю... А праз пяцьдзесят гадоў адзін з тых, хто быў побач, апісвае знаходжанне ў лагеры як "жыццё школьнікаў у вёсцы, куды іх накіравалі крыху папрацаваць улетку", сцвярджае, што "толькі вайна стварала ўмовы... у якіх пасапраўднаму ўмацоўваецца непадробнае мужчынскае сяброўства". Двое другіх наогул запэўніваюць, што "ты" — не "ты", што "ты" загінуў падчас бамбардзіроўкі карабля з дэпартаванымі — а тваё "сапраўднае" жыццё пражыў хтосьці іншы. Вядомы многім, "ты" так і застаўся адзінотнікам, чужаніцам — у тым ліку і для самога сябе...

Н. Гштрайна нельга *злавіць* на містыфікацыі, бо тое, што для некаторых літаратараў ёсць *прыёмам*, спосабам "абставіць" чытача ў нежартоўнай (і прыбытковай!) гульні — "лоўлі сэнсаў", для гэтага пісьменніка з'яўляецца *логікаю* жыцця, якое "блытае ўсе формулы" (Ю. О'Ніл), свету, дзе чалавек мусіць прымяркоўваць сваю адзіноту да безлічы чужых самотаў, дзе "ўсё ўрэшце зводзіцца да таго, каб вызначыць, сярод якіх людзей тваё месца". Бо нам засталася *такая* свабода — змагацца.

Паказальна, што вобраз *чалавека-міфа* не проста раздвойваецца: уяўленні розных людзей пра Хіршфельдэра, неадназначныя, супярэчлівыя, адмысловым чынам узаемалюструюцца — і шматкроць памнажаюць адбіткі біяграфіі *знікомага* чалавека: "Знікненне было траістага кшталту — знікненне ў моры ля ірландскага берага, знікненне з памяці Клары, знікненне ў мяркуемай аўтабіяграфічнай кнізе, калі яна наогул існавала". Мноства твараў, якімі празаік адорвае свайго героя, не надаюць разнастайнасці, "шматколернасці" жыццю "Хіршфельдэра", але, наадварот, узмацняюць ягоную адчужанасць ад свету, вымушаюць траціць сілы яшчэ і на вайну з уласнаю непрадказальнасцю-няўлоўнасцю.

Н. Гштрайн, што нарадзіўся ў 1961 годзе, здаецца, не мае на мэце рэстаўрацыю "аб'ектыўнай" карціны другой сусветнай, хаця цэнтральны герой "Брытанца" — чалавек-прывід, чалавек-фантом — падпітвае сваю пасляваенную "легендарнасць" менавіта "далучанасцю да вайны". "Вайною хочаш ты пражыць — за тое мусіш заплаціць", — прамаўляе вуснамі аднаго са сваіх герояў Бертольд Брэхт у 1939 годзе ("Матухна Кураж і яе дзеці"). *Чалавек-міф* сп. Гштрайна, пэўна, так і не здолеў ***пражыць*** вайну — вымкнуцца з яе ўлоння, выкараскацца з яе цянётаў, прарвацца да *сутнасці* — "сапраўднасці" — быцця. Зрэшты, паводле перакanання гераіні, ад імя якое і вядзецца аповед, "у абыходжанні з фактамі пісьменніку даваяраць нельга". Гэтаю фразаю "падсумоўваецца" раман, дзе па меры набліжэння да фіналу сюжэтныя калізіі не тое што не прасвятляюцца, але імкліва і незваротна заблытваюцца: чытач канчаткова пазбаўляецца якой-колечы пэўнасці адносна магчымага, верагоднага ды існага "Хіршфельдэраў", і "выжыць" у гэтым супрацьстаянні пісьменніцкай дапытлівай няўрымслівасці і чытацкай мужнасці здолее толькі сапраўдны ***герой***.

### Інга ШУЛЬЦЭ.
**Symple storys**

*Раман / Пер. з ням. Т. Баскакава. — М.: "Ad Marginem", 2003. — 320 с.*

У "рамане з жыцця ўсходнегерманскай правінцыі" (а менавіта гэтак нямецкая пісьменніца І. Шульцэ акрэслівае жанр свайго твора) якраз ***героя****ў* — носьбітаў *волевыяўлення*, "агрэсіўных" каталізатараў раманнага дзеяння — і бракуе, хаця кожны з дваццаці дзевяці аповедаў (з якіх, уласна, і складаецца, раман), здавалася б, непазбежна мусіць стацца "эпіцэнтрам" асобаснасці, бо рэпрэзентуе ад імя ***я***-героя падкрэслена "прыватную" версію чарговага "восевага часу", адлік якога для немцаў пачаўся з 1989 года.

Абяцаная немудрагелістасць "правінцыйных" сюжэтаў пільна ахоўваецца аўтарам ад любога замаху ўскладненасці — найперш, "парканамі"-анатацыямі да кожнай часткі; у іх ад "цела тэксту" застаецца "шкілет змястоўнасці", але нават на такой сціпла-сціслай плошчы спрактыкаваны раманіст з задаткамі навеліста здолее прысуседзіць вечнае да штодзённага, "касмічнае" да "местачковага" ("Берлін, жнівень, вечар нядзелі. Лідзія есць рысавы пудзінг і распавядае пра Жэні, Майка, Яна і Алекс. Стары сядзіць на сваім балконе. Сігнальная лямпа стаіць на падаконні. Як уладкаваць усё і зрабіць так, каб рэчы і людзі вярнуліся на адпаведныя месцы", — гэтая "брама" адчыняецца ў раздзел 26 "Немаўля міргае"). Зрэшты, тая падкрэсленая стрыманасць, "простасць", з якою персанажы сп-ні Шульцэ *наважваюцца* пачаць аповед, незаўважна пераніцоўваецца ў іерагліфічнасць алюзій ды асацыяцый. Гэтаксама вонкавая рахманасць можа ўтрымліваць зародкі гневу — калі сама сучаснасць захоча ўпрыгожыцца "біблейскасцю": так, адзін з персанажаў — Марцін Мойрэр — пасля дваццаці чатырох год расстання сустракаецца са сваім бацькам (тамтэйшым "заходнікам"), выслухоўвае ягоную споведзь — і наўпрост атаясамляе яе з "сапраўднай гісторыяй Саўла-/Паўла", дзе "адзін чалавек з ката хрысціянаўператварыўся ў іх самага аўтарытэтнага місіянера".

Расказванне "простых гісторый" пазбаўленае сэнсу роўна настолькі, наколькі немэтазгоднае існаванне "звычайнага чалавека" — таго, што прыкладае грандыёзныя намаганні, каб выйграць вайну з самім сабою: "Я выпіваю ваду, сашкрабаю воск з падсвечніка, выкідаю агаркі і ўстаўляю новыя свечкі. Раптам я перастаю адчуваць стомленасць, і ў мяне нават узнікае жаданне ўключыць музыку, проста прыгожую музыку. Але я адмаўляюся ад гэтай думкі. Я не хачу рызыкаваць. Мне важна захаваць добры настрой, хай сабе на пару хвілін" ("Зараз ты можаш...").

Мэты — адносна велічныя. Матывацыя ўчынкаў — без прэтэнзій на "месіянства". У першым жа раздзеле — "Зеўс" — Рэната Мойрэр апавядае пра аўтобусную экскурсію ў лютым 1990 года ў Італію, калі адбыўся інцыдэнт з Дытарам Шубертам па мянушцы "Зеўс": з карніза фларэнційскага сабора той імкнуўся выкрыць "злачынствы" яе мужа Эрнста ("чырвонага", "партыйнага бонзы ў зялёнай куртцы"), што калісьці яго звольніў. У фінале гэтай гісторыі, дзе выпадковыя людзі "абменьваюцца харчам і ўспамінамі", дзе будучыя крызы, істэрыкі і скандалы цяжарныя мінулым, Рэната дае дакладны адказ на зразумелае пытанне: "Навошта я апавядаю пра гэта? Таму што людзі залішне хутка на ўсё забываюцца". Падобная *простасць* не ёсць сінонімам трывіяльнасці, бо ўкаранёная яна не столькі ў празе аўтаравага *самавыяўлення* (калі пакора горай за пыху), колькі ў імкненні пражыць чужыя *адзіноцтвы*, каб мець сілы змагацца са сваёй.

У раздзеле "Раніца пасля запозненага візіту" Франк Холічак, адна з персаніфікацый той **самоты**, якую чалавецтва мусіць дзяліць на безліч былых і будучых жыццяў, сцвярджае: калі ў чалавека заканчваюцца сапраўдныя праблемы — ён мусіць развітвацца з літаратарствам, бо пра што ж яму пісаць?! "Ва ўсім свеце нам зайздросцяць, зайздросцяць з-за праблем, з якімі мы штодзень сутыкаемся. Усе хацелі б памяняцца з намі месцамі". Але некаторыя (не толькі *там*, у "*іхніх*" мітрэнгах, але і *тут*, у "*нашым*" — мураваным — спакоі) аддаюць перавагу пакутам, ад якіх атрымліваюць сапраўдную асалоду...

Вось і яшчэ адна нагода для высвятлення адносін, правільнасці пазіцый ды ісціннасці намераў. Такія войны скончацца разам з жыццём.

**Ірына ШАЎЛЯКОВА**

***Фота забяспечана аўтарам***

# Ці засмечваюць мову дыялектызмы?

*Гэты артыкул прысвячаю светлай памяці Ніны Іванаўны Гілевіч — мовазнаўцы, што некалі вучыла мяне, якая даследавала ў тым ліку і дыялектызмы.*

*Уверсе растае дым — **кагадзе** прайшоў поезд* (Кузьма Чорны). *Так дражнілі іх кампанію школа за аднолькавага колеру істужкі ў косах, па-мясцоваму — **пахісткі*** (Максім Лужанін). *Стала чагосьці **жаллiва**, чагосьці стала брацъ **горнасць*** (Іван Мележ). *Гэта ж напэўна Якуб выразаў у гэтым дубе дзікія пчолы — **слепет**; Чую — Цыганчука **кручаны** сабака пакусаў; — Бяжы лепш у хату, **кіяхі** грызі...* (Барыс Сачанка).

Неяк у навуковай працы аднаго слыннага вучонага мне давялося прачытаць пра тое, што беларускія пісьменнікі нібыта "псуюць" нашу мову, "засмечваюць" яе — унармаваную, літаратурную — частым ужываннем дыялектызмаў, неапраўданых наватвораў і інш. Безумоўна, той лінгвіст (не будзем называць канкрэтнае прозвішча, бо за ім стаіць агульны, калектыўны пункт гледжання) у нечым мае рацыю. Але не заступіцца за пісьменнікаў, не выступіць у іх абарону я не магу таксама. Бо калі ведаеш, што такое літаратурны твор і як ён нараджаецца, то разумееш спецыфіку мовы мастацкага тэксту... Гэта не навуковы артыкул і не падручнік. Гэта нешта абсалютна іншае. Іншыя і патрабаванні да літаратурнага твора.

Асноўнае прызначэнне такога твора — адлюстроўваць жыццё і адначасова думкі, памкненні аўтара, пісьменніка. Трэба сказаць, што апошні часта з'яўляецца даволі супярэчлівай асобай (на думку вучонага, магчыма, нават "хворай") і таму не разумее нават самога сябе. Але затое ён адораны звыш, адчувае тое, што ад большасці смяротных схавана, утоена. Ён кантактуе з вышэйшымі сіламі, валодае інтуіцыяй. Кволая нервовая сістэма не дазваляе пісьменніку ачарсцвець, зрабіцца абыякавым да чалавечых пакут і няшчасцяў. Гэтак жа тонка, клапатлівa пісьменнік ставіцца і да свайго творчага інструмента, сродку выяўлення сваіх мар і спадзяванняў — мовы. Ён укладвае ў літаратурны твор усю сваю душу і мяркуе, што яго зразумее і падтрымае чытач. А для таго, каб дасягнуць гэтага, аўтар проста не можа карыстацца сухім канцылярскім стылем, пазбаўленым усялякіх эстэтычных рыс і слоўных упрыгажэнняў. Слоўнікі? Канечне, перад пісьменнікам, як і перад кожным адукаваным чалавекам, паўстае пытанне, якімі з іх карыстацца. З аднаго боку, у нас ёсць "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" ў 5 тамах (Мн., 1977—1984) і "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Мн., 2002), а таксама "Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне" (Мн., 1987). Хапае і іншых слоўнікаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы: руска-беларускіх, беларуска-рускіх... Не зусім, думаецца, састарэлі і складзеныя раней, у 1960—1970-х гг., акадэмічныя слоўнікі і граматыкі. У кожным разе, трэба ведаць, што ў нас ёсць такое багацце і што не выкарыстоўваць яго — проста грэх.

Аднак, з другога боку, пісьменнік мае права і на нейкае наватарства, словатворства, ужыванне мясцовых слоў, якія ажыўляюць і асвяжаюць мастацкі тэкст. Асабліва часта выкарыстоўвалі дыялектызмы, як мы ведаем, пісьменнікі г. зв. "сярэдняга" пакалення — І. Чыгрынаў, І. Пташнікаў, І. Мележ, Б. Сачанка ды і шмат хто з іх старэйшых калег па пяру — К. Чорны, М. Лужанін... Не цураліся самабытных, арыгінальных, непаўторных слоў і такія мэтры, майстры, класікі беларускай літаратуры, як Янка Купала і Якуб Колас. На гэту тэму напісана і апублікавана ўжо не адно навуковае даследаванне. Таму не будзем удавацца, як кажуць, у залішнія падрабязнасці, а толькі падкрэслім: пісьменнік **мае права** на нешта гэткае (што можа здавацца некаму вострым, нечаканым і г. д.). Іншая справа — як гэты падыход аўтара да свайго твора ўспрыме чытач.

На мой погляд, з літаратурнага твора катэгарычна нельга выкідаць цікавыя, адметныя словы і выразы (хай сабе ад іх і патыхае штукарствам). Нельга пакідаць у мастацкім тэксце выключна адну канву, сюжэтную лінію. Варта і неабходна дбаць і аб прыгажосці, дасканаласці эстэтычнай формы.

Давайце разам абмяркуем гэта, выкажамся на старонках "ЛіМа" нарэшце нарэшце таго, што вы думаеце пра моўны бок твораў сваіх знаёмых, сяброў, аднадумцаў. Што вы думаеце наконт моўнага наватарства і літаратурнай нормы? Давайце распачнём дыскусію, давайце выкажамся. Асабіста я лічу, што пісьменніка "па жыцці" павінны весці талент і моўны густ, а толькі потым ужо — нарматыўны слоўнік...

Між іншым, надрукаваны ў "ЛіМе" артыкул У. Дамашэвіча, прысвечаны моўным праблемам, выклікаў самы гарачы водгук у высокіх акадэмічных колах.

**Святлана ЯВАР**



Наша мова насычана шматлікімі тэрмінамі, якія бяруць свой пачатак з міфаў. Асабліва гэта тычыцца старажытнагрэчаскіх і старажытнарымскіх міфаў. Мы выкарыстоўваем запазычаныя словы штодзённа і нават не задумваемся пра іх паходжанне. Калі мы едзем па гарадскіх вуліцах і бачым аўтамабільныя заторы, бязладную мітусню натоўпу,

# Новае жыццё старажытных слоў

у нашай памяці адразу ўсплывае паняцце "**Хаос**". А гэтае слова прыйшло да нас з грэчаскага міфа, які апісвае першапачатковы стан рэчаў яшчэ да стварэння свету. Калі ж усе рэчы, створаныя з **Хаосу**, набылі акрэсленыя рысы, тады ўзнік **Космас**. Паняцце **"Космас"** азначае парадак і гарманічнае ўладкаванне. А цяпер узгадаем пудру, румяны, бліскучы для вуснаў, фарбу для валасоў... Усё гэта разам завецца касметыкай, яна надае знешнасці прыгожы і дасканалы выгляд. А можна зазірнуць і ў музей, які атрымаў такую назву ў гонар **муз**, апякунак мастацтваў у старажытных грэкаў. І яшчэ, жывём мы ў Еўропе, якая атрымала сваё імя ў гонар смяротнай жанчыны **Еўропы**, каханай грэчаскага бога Зеўса. Шэраг прыкладаў можна доўжыць і доўжыць. Цяпер вернемся на нашу беларускую глебу.

У беларусаў, як і ў іншых славян, існаваў культ **Роду і парадзіх**, ён сфарміраваўся раней за культ Перуна, у часы абшчынна-родавага грамадства. У беларускай традыцыйнай творчасці Род увасобіўся ў вобразе Радзімы, Бацькаўшчыны, родных людзей, а "бязродны" азначае тое самае, што і бяздольны, няшчасны. Ёсць у беларускай міфалогіі паняцце-ўвасабленне прадвызначанага вышэйшымі сіламі сусветнага парадку — **Кон**, у больш вузкім сэнсе — лёс чалавека. Кон нельга адмяніць, але пра яго можна даведацца з дапамогай варажбітоў, знахароў і чараўнікоў. Адсюль і: наканавана, да скону, сканаць, сконча, ваць, стаць на кон...

Усім беларусам вядомы такія ці падобныя выразы: "Каб цябе **Пярун** лясну...", ці "А каб цябе **Кадук** узяў". Пярун у агульнаславянскай і, у прыватнасці, у беларускай міфалогіі азначае бога грымотаў і маланкі. Сваіх супраціўнікаў: бога Вялеса (ён у выглядзе змея хаваецца пад каранямі дуба ці ў зямных водах), а ў пазнейшых вераваннях — іншых нячысцікаў, Пярун пераследуе сваёй зброяй: стрэламі-маланкамі. А Кадук — нячысцік, які харчуецца немаўлятамі, чым прыводзіць да выраджэння роду. Ён — увасабленне хваробы эпілепсіі, ці інакш падучкі, альбо радзімца. Сваё імя Кадук атрымаў ад лацінскай назвы хваробы caducus (падучы).

Ёсць і такі дахрысціянскі бог беларусаў, як **Ярыла**. Пасля прыняцця хрысціянства ён увасобіўся ў вобразе св. Юр'я, свята якога адзначаецца 23 красавіка ці 6 траўня (паводле праваслаўнай традыцыі). Ярыла лічыўся не толькі богам вайны, але і богам ураджайнасці, пад яго ўладай знаходзіліся дрэвы, расліны і зямныя плады. Адсюль і словы: яры (па-руску яростный), яравы, ярына, яркі (ягонае адзенне было снежна-белым, а шчыт сонечна-залатым).

Словы: ладзіць, уладкаваць, лад, ладзіны ды іншыя пайшлі ад багіні **Лады**. Яна знаходзілася як у агульнаславянскім, так і ў беларускім старажытным пантэоне. Па адных звестках Лада лічылася багіняй весялосці і дабрабыту. Ёй прыносілі ахвяраванні падчас шлюбу. Па іншых звестках нашы продкі ўшаноўвалі Ладу як "Вялікую Багіню". Іншая багіня дахрысціянскага пантэона, багіня вясны, маладосці і прыгажосці, якая таксама суаднасілася з таямніцай шлюбу, плоднасці і ўрадлівасці — багіня **Лёля, Ляля**. Слова "ляля" ў шэрагу славянскіх моваў азначае: немаўля, дзіця, лялька, люлька (дзіцячая калыска). Ад **Лялі** паходзіць і рускае слова "лелеять" (пестить), г.зн. калыхаць, лашчыць, беражліва насіць дзіця. Лелека — бусел, які паводле распаўсюджанага павер'я, прыносіць дзяцей.

**Жыжа, Жыжаля, Жыжу** — бог агню. Гэты бог паводле ўяўленняў беларусаў ходзіць пад зямлёй і там выдыхае з сябе агонь. Калі ён робіць гэта паціху, то зямля проста саграецца, а калі хутка, то на зямной паверхні ўзнікаюць пажары, якія знішчаюць лясы і сенажаці, высушваюць палі і гароды. Адсюль і выслоўі: "Жыж унадзіўся", г.зн., што нэрадкімі сталі сухмень ці пажар; "неадчэпны, прыліпчывы, як Жыж", "Жыжка села" — так называюць лішай, ці вогнік на вуснах. А вось **Зюзя** — персанаж беларускай міфалогіі, які ўвасабляе зімовую сцюжу, а таксама каляндарны перыяд ад Калядаў да веснавога раўнадзенства. З гэтым персанажам звязаныя такія беларускія словы, як зюзець (мерзнуць), азызнуць (змерзнуць на холадзе) і г.д. А вось выслоўе: "як зюзя набраўся", ці "назюзюкаўся" адносіцца да горкіх п'яніц з-за падабенства іх чырвоных насоў да чырвонага носа Зюзі.

Гэта толькі малая частка прыкладаў невычэрпнага акіяна багацця нашай роднай і непаўторнай мовы. Трэба толькі ўважліва і з любоўю прыслухоўвацца да яе, і тады яна прыадчыніць вам свае таямніцы.

**Ірына КЛІМКОВІЧ**

ЗАХАРАВА, 19



Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва";
e-mail: minsk@lim.by
*Адрас у Інтэрнэце — www.lim.by*

## Максім ГАРЭЦКІ:



*"Так і мяне, заві якім хочаш сепаратыстам, а не бунтуй адно быць мне самім сабою і жыць па-беларуску."*




Валеры ГРЫШКАВЕЦ, *"Белые мосты"* (вершы, аповеды, эсэ, артыкулы, запісы; Пінск, "Рэдакцыя газеты "Пінскі веснік", 2004, рэдактар М.Ляшук, 500 экз., 235 стар.)

Імя В.Грышкаўца не новае ў беларускай паэзіі. Першы яго зборнік "Время отправления" пабачыў свет яшчэ ў 1981 годзе. І толькі праз дзесяць гадоў — другі — "Круг аистиный". "Белые мосты" — трэцяя кніжка рускамоўнага літаратара з Пінска.

Адразу заўважна, што нават у назовах кніг В.Грышкаўца неадменна фігуруе метафарычны сімвал шляху (часу, дарогі, руху). І ў гэтым паэт не здраджвае сваёй лёсавай лініі. Чытаючы анатацыю да апошняй яго кніжкі, здзіўляешся, як змог ён нават фізічна здзейсніць і здолець такую, у тым ліку і геаграфічна, багатую біяграфію: Пінск, Крым, Іркуцк, Бурація, Літва, Сяміпалацінск, Масква, Пінск... Вінаградар, журналіст, матрос, геолаг, мантажнік, студэнт, вартаўнік, вольны *мастак*...

Што праўда, не заўжды такая шырокая і рознапланавая біяграфія мае ў выніку адэкватны літаратурны плён. Чалавеку ў жыцці важна не толькі абазначыцца, але і духоўна пражыць уласнае бытаванне. Сказаць, што такой спробы ў В.Грышкаўца не было і няма, было б несправядліва. Ужо тое, што ён стаў лаўрэатам Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Андрэя Платонава, гаворыць пра яго несумненны талент. Праўда, як на мой густ, то пераважная большасць вершаў паэта *грашыць* традыцыйным рускім стылем. Якім чынам ідэі славянафільства маглі праявіцца ў асобе палешука, сказаць цяжка. Зрэшты, а чаму б і не, улічваючы практыку вялікадзяржаўнай савецкай палітыкі цягам сарака гадоў з піцідзесяці пражытых паэтам, які і па сёння курсіруе паміж Масквой і Пінскам, міжвольна высноўваючы гармонію паміж хлебам *духоўным* і хлебам *надзённым*...

*Под шум листопада, под всхлипы дождя,*
*Очнусь и опомнюсь — живу, уходя.*
*И вечно на кромке, у самых дверей —*
*Я тот, с кем на свете всего тяжелей.*
*Побитый, отпетый, пропитый до тла!..*
*Спасибо, Отчизна, хоть ты берегла.*

Цікава, што маецца на ўвазе пад словам "Отчизна"? Айчына ці нешта большае? Бо сама Беларусь для В.Грышкаўца найперш радзіма, і найчасцей не Беларусь нават, а ўсяго толькі Белая **Русь** — любімая, але малая частка нечага больш велічнага. Я не хранічны нацыяналіст, але *спачуваю* людзям, у якіх "Отчизна" настолькі вялікая, што ўся цалкам не ўмяшчаецца ў іх сэрцах...

Вось і В.Грышкаўца амаль фізічна *мучыць* гэты яго дваісты сутнасны (падчас ненатуральны) стан: вычуваць сябе карэнным беларусам і адчуваць сваю чалавечую непаўнавартаснасць, апынуўшыся ў прасторы *бязрускасці*...

*Снова пришел я на берег твой, Припять,*
*Горьким туманом до пьяну упьюсь.*
*Родины боли — как водки — не выпить.*
*Тень на лице твоем, Белая Русь.*
*Спился бы, Родина! Только бы выпить,*
*Боль твою выпить до белого дна!*
*Плачут славянки — не высохнет Припять,*
*Чистые слезы, а речка черна...*

Нельга не заўважыць і празмерную *кабацкую ясеніншчыну* паэта. У 110 вершах гэтай зборнай кніжкі я налічыў ажно 42 радкі з упамінаннем п'янкі, разгулу і апахмелкі! Ці не з гэтага, не заўжды здаровага стану В.Грышкаўца, берасцейскі паэт і фермер-мецэнат Мікола Папека гэтай восенню вырашыў падсаладзіць жыццё калегу Мядовай літаратурнай прэміяй (раней ёю ўганароўваліся Мікола Купрэеў і Алесь Каско). Пуд дармавога пчалінага мёду (цэлае вядро!), спадзяёмся, дапаможа паэту акрыяць фізічна і духоўна. Нездарма ж у яго з'явіўся чарговы пожад душэўнага ачышчэння:

*Брось, братва, похмельную отвагу,*
*Что там водка — налегай на квас!*
*Будет, будет разводить бодягу,*
*Тяжко мне, и я устал от вас.*

А што тычыцца празаічнай часткі гэтай кнігі, то пасля вершаў яна падалася не такой аднастайнай і таму больш прыцягальнай. Паэт аказаўся цікавым эсэістам і займальным апавядальнікам. Яркія і адметныя вобразы і тыпажы яго сяброў і знаёмых, найчасцей далучаных да літаратуры, — вядомых і не надта — раскрываюцца ім не толькі літаральна, хоць падчас рытарычна і пафасна, але і па-мастацку высока і суперажывальна (Рудкоўскі, Купрэеў, Янішчыц, Сыс, Калеснік, Гардзей, Крэйдзіч, Бібіцкі, Ларын, Каратышэўскі, Аграноўскі, Туманаў, Талкачоў, Рогаль...)

Цікава выпісана ім і родавая лінія: бацька, маці, дзядзькі, дзяды... Вось хоць бы гэты пасаж для агульнага чытацкага ўяўлення пра пахаванне дзеда:

*"Помню, я долго, неотрывно, даже забыл о простуде, смотрел на крест. "Из дуба", — то и дело говорили мужики. Мне он казался живым. Огромный, крепкий, каким был дед Рыгор. А еще запомнились слова отца, сказанные дядьке Петру, моему крестному, когда шли обратно в деревню, поминать. Если бы не те слова, вряд ли бы я так отчетливо запомнил похороны "балаховца" деда Рыгора. "Ох, и не любив нэбога гэтый дэнь"... А день был — 7 ноября 1964 года."*

Адным словам, усім зацікаўленым раю з пэўнай асцярогай прайсціся па коўзкіх і не зусім трывалых "белых мастах" таленавітага рускамоўнага паэта Валеры Грышкаўца. Асабліва тым, хто даўно прагне апынуцца на бацькоўскім беразе Айчыны... Адназначна і назаўсёды.




Анатоль КІРВЕЛЬ. *"Гукі жыцця"* (аповесці, апавяданні; Мінск, "Беларускі кнігазбор", 2004, рэдактар Н.Давыдзенка, 300 паас., 140 стар.)

Не так даўно пішучы пра папярэднюю кніжку А.Кірвеля, я, іранічна абмалёўваючы партрэт аўтара, заўважыў яго шкодную звычку да бесперапыннага палення гродзенскай "прымы", на што, сустрэўшысь пасля публікацыі, літаратар заўважыў мне, што "прыму" ён сапраўды паліць, але не нашу, гродзенскую, а санкт-пецярбургскую... А я, па праўдзе кажучы, думаў, што такое курodымнае паскудства толькі ў нас і водзіцца. Аказваецца, хапае гэткай закуранасці і ў самой культурнай сталіцы Расіі. (Чарговы партрэт А.Кірвеля на вокладцы новай кніжкі — усё з той жа, прыклеенай да губы, "прымай" — нашай, не нашай? — адна з іх трасца; можна нават было б прымастакаваць поруч лэйбу: *"Минздрав предупреждает..."*)

*"Сярод тых, хто тым ці іншым чынам спрыяе пошуку новых, больш аптымальных форм уздзеяння на чытача, беларускі пісьменнік з Санкт-Пецярбурга..."* А.Кірвель, вядома. Аднак я вышэйзгаданую тэзу гэтак катэгарычна, як аўтар анатацыі, не сцвярджаў бы. Бо, на мой погляд, проза А.Кірвеля не толькі "знешне традыцыйная", але гэткая ж і па сваёй сутнасці (форме і змесце). Магчыма за выняткам асобных тэкстаў. Лепш было б напісаць у анатацыі, што пісьменнік знаходзіцца ў пастаянным пошуку свайго літаратурнага стылю і свайго асабістага светаўспрымання. Гэта заўважна. Падчас *засведчваецца* даволі ўдалыя знаходкі (казаць пра адкрыцці я пасцярогся б... пакуль прынамсі).

Для тэкстаў гэтай кніжкі аўтар абраў выйгрышную тэму — мастацтва і звязаныя з яго пазітыўнымі і негатыўнымі праявамі калізіі (найперш сферу чалавечай духоўнасці і душэўнасці).

На жаль, сям-там прастору тэксту *псуюць* вульгарызмы, як супрычыннікі аўтарскай глухаты. Да прыкладу: *"Штось узварухнула паветра, і Стэф азірнуўся: збочыўшы да дзвярэй, што вялі ў палату, ад яго аддаляліся да здзіўлення круглыя — Стэф ніколі такіх не бачыў — пругкія і пукатыя ягадзіцы — нібыта старанна надзьмутыя мячыкі"*. І праз пару сказаў развівае тэму далей: *"І гэтыя пах і колер ішлі адтуль — з сэрцавіны цела, — і ўсё яно цалкам — з гэтага смуглявага рэчыва, якому цесна ў выпадкова знойдзенай абалонцы, і ўсё, што маецца ў яго нетрах нейкім дзіўным чынам праз скуру, праз халацік знаходзіць сабе выйсце і рухаецца — не разам з целам, а трохі папераду яго — за метр ці паўтара, — і паветра само разыходзіцца ў бакі, каб прапусціць колер і пах, а само цела ішчэ водаль"*. Аўтар піша адно, а чытаецца другое. І тут ужо, як кажуць, ад героя вее не духам, а натуральным душком...

Падобных месцаў у кніжцы няшмат, і можа таму на фоне дабротных тэкстаў яны такія заўважныя і *выпуклыя*. Аснова ж *"Гукаў жыцця"* здаровая і ясная. На мой погляд, як празаік, ад кніжкі да кніжкі А.Кірвель прагрэсіруе. Што праўда, кніжак у яго многа. Будзем чакаць наступнай...







**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**
**Анатоль КАЗЛОЎ**

**Рэдакцыйная рада:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Наталля ДЗЯНІСАВА,**
**Віктар КАВАЛЁЎ,**
**Алесь ГАЎРОН — в. а. намесніка галоўнага рэдактара**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**галоўны рэдактар — 284-66-73**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-66-71**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-81-53**
**паэзіі, літаратурнага жыцця, крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04**
**прозы — 284-66-73**
**музыкі, тэатра, кіно і выяўленчага мастацтва — 284-81-53**
**бухгалтэрыя — 284-66-72**
**Тэл./факс — 284-66-73**

***Электронны адрас:***
**e-mail: minsk@lim.by**

***Адрас у Інтэрнеце — www.lim.by***





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856. Наклад 2470
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 15.12.2004 у 11.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ — 1870

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12